ПОЛИТКУХНЯ

# Сергей КАЛЯКИН: «Сегодня власть сама себе вредит!»

***Председатель Белорусской партии левых «Справедливый свет» рассказал «Народной Воле», каким видит будущее страны.***



**– Сергей Иванович, как-то вы пропали в последнее время со всех радаров…**

– Так а сейчас ведь вся активность – она на улицах. Какие еще радары могут быть?

**– Вы ходите на все акции протеста?**

– Я сейчас, если честно, не очень большой ходок, у меня есть некоторые проблемы со здоровьем. Но наши люди из партии ходят регулярно.

**– Как вы готовитесь к перерегистрации партии?**

– Дело в том, что перерегистрация не предусмотрена ни одним законом. Поэтому мы пока никаких действий не предпринимаем. Сейчас идет проверка Минюста – присылают всякие запросы, на которые мы даем ответы. Причем в каждом регионе это происходит по-разному – в каждой области надо предоставить свои сведения. Но имеют на это право, мы на все запросы отвечаем. Пока это все, что связано с перерегистрацией.

Думаю, перерегистрация партий случится не сейчас, а немного позже. Насколько мне известно, в недрах Администрации президента и околопрезидентских структур готовится новый закон о политических партиях. После его принятия вполне возможна перерегистрация – так уже было в нашей истории, это будет требование нового закона.

Не известно, какие параметры закладываются в закон о политических партиях. Понятно одно – власти хотели бы после всего, что было, оставить для декорации лишь лояльные партии. Поэтому перерегистрация, на мой взгляд, будет носить не технический, а политический характер. И к ней готовиться бессмысленно. Если останется эта власть, то она будет действовать вне правового поля, как действует сегодня в отношении всего населения Беларуси.

**– В прошлом году при Минюсте была создана рабочая группа, в которую входили представители всех политических партий. И были подготовлены дополнения и изменения в законопроект….**

– Этот проект не дошел до слушаний в Палате представителей. Насколько я знаю, идет коренная переработка закона. Возможно, это связано и с предполагаемым изменением Конституции, где могут быть заложены параметры, обусловленные тем, что партии должны участвовать в выборах по партийным спискам (пропорционально-мажоритарная система). Предполагается более глубокий подход к разработке этого законопроекта, чем предлагал Минюст, инициировавший, скажем так, чисто косметические правки. А политические партии, напомню, настаивали на возможности государственного финансирования политических партий, чтобы не было внешнего политического влияния на то, что происходит в Беларуси, а также на ряде других принципиальных поправок.

Но что будет в новом законе – представители политических партий еще не в курсе. В принципе, для нашей страны это и не удивительно.

**– Сергей Иванович, а как вы вообще оцениваете то, что сейчас происходит в Беларуси? Светлана Тихановская, например, уверена, что до конца этого года могут пройти новые президентские выборы. По-вашему, это реально?**

– С одной стороны, – да, с другой – нет.

Вот кто в середине июля мог предположить, что будет такой массовый всплеск протестов? Кто мог предсказать многомесячное мирное противостояние с властью? Никто! Все говорили, что белорусы не способны, не могут, всех всё устраивает. А оказалось наоборот! Я много раз говорил о том, что для переполненной чаши достаточно одной капли.

Может, и удастся провести новые выборы. А может, Лукашенко при помощи силовых структур удержится в своем кресле. Неизбежно в ближайшее время обострится ряд проблем в экономике, не связанных с массовыми протестами. Мировой кризис плюс коронавирус, который никуда не делся, – всё это создает головную боль для власти и не будет способствовать успокоению людей.

На мой взгляд, до очередных президентских выборов Лукашенко на нынешнем посту и эта власть не доживут. Какой путь ухода или трансформации выберет для себя режим – это уже другой вопрос. Но чем дольше власть будет применять насилие, тем хуже будет для нее.

Большинство людей перестало бояться. Отдельных запугать еще можно, но и это стало делать труднее. Общество изменилось. Сейчас насилие злит людей и может привести к радикализации ситуации с печальными последствиями для власти и силовиков.

**– Если проводить параллели с тем, что случилось в последние дни в Кыргызстане…**

– Здесь не может быть параллелей. Дело в том, что в Кыргызстане кланы борются между собой. Те, кто был у власти, против тех, кто сейчас у власти. И там есть коррупционная составляющая. И немного другие полномочия у власти, там представители различных кланов есть и в парламенте, и в силовых структурах, поэтому в Бишкеке пять тысяч человек вышло – и власть отступила, силовые структуры поддержали протест.

У нас другая ситуация. Поэтому Кыргызстан с Беларусью сравнивать нельзя, и я считаю, не надо нам идти по киргизскому пути. Они провели три революции, а все проблемы в стране остались. Реформы по большому счету ничего не дали, коррупционные деньги там по-прежнему правят бал и определяют, кто будет у власти.

**– В последнее время Александр Лукашенко провел немало встреч российскими губернаторами. А Светлана Тихановская встречалась с главами европейских стран…**

– Европа и Америка не признали Лукашенко президентом. Кстати, и в России его признание президентом носит мягкий характер, даже на последней встрече Лукашенко и Путина речь идет больше о поддержке белорусского народа, проскакивают фразы, что, кто бы ни был у власти, Россия всегда будет стратегическим партнером. Поэтому жесткой и безоговорочной поддержки нет. Политическое непризнание Лукашенко может создать серьезные экономические проблемы. Это ведь только кажется, что бизнес отделен от политики, но на самом деле бизнес обычно первым страдает. А сейчас обостряются газовые проблемы… Лукашенко всегда хвастался, что мы половину нашей продукции продаем в Европу, это наши рынки сбыта.

Что касается конкретно встречи Тихановской и Меркель, то это сигнал. Кстати, я и наша партия не считаем, что Светлана Тихановская официально получила статус законно избранного президента Беларуси. Но то, что она один из лидеров президентской гонки, – это факт. То, что она сегодня имеет большую легитимность в смысле народной поддержки, – это тоже правда. Тихановская – лидер значительной части белорусского народа. И в этом статусе ее и принимали в Германии. Если бы Тихановская встретилась, к примеру, с президентом Люксембурга – это была бы одна ситуация. А Меркель – один из ведущих лидеров Европейского Союза. И эта встреча ясно показывает, на чьей стороне сегодня Европа.

А у белорусской власти, мне кажется, извините, мозги отсохли совсем. И то, что они сейчас делают, включая МИД… Я всегда считал Владимира Макея человеком разумным, понимающим, что происходит в стране и как строится международная политика. Либо Макея сегодня вообще задвинули и он стал просто мальчиком для битья, от которого ничего не зависит, либо он поглупел в министерском кресле. То, что сегодня МИД делает по отзыву послов, ограничению численности работников иностранных посольств, – они по-живому режут сук, на котором пока еще сами держатся!

Сегодня власть сама вредит себе так, как ни одна оппозиция ей никогда не навредит! Сами себе создали массовые протесты, фальсифицировав результаты выборов и объявив о 80 процентах поддержки Лукашенко, бросив многих приличных людей за решетку. Сейчас сама власть поддерживает эти протесты. Либо Лукашенко думает, что схватил Бога за бороду, либо живет в каком-то иллюзорном мире. А скорее всего, это просто его самонадеянность и сложившееся за четверть века чувство, что, может, и на этот раз пронесет.

Не пронесет!

**Марина КОКТЫШ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Суд ці судзілішча?



*Гродзенец **Уладзімір Родчанка** аштрафаваны на 25 базавых велічынь за тое, што стаяў на каленях перад аблвыканкамам з плакатам супраць насілля.*

Уладзімір Родчанка – інжынер-праграміст. Жанаты, мае дваіх дзяцей. Вядомы тым, што ў першыя дні пратэстаў ездзіў па Гродне на ўласным аўто з прымацаваным бел-чырвона-белым сцягам, быў за гэта асуджаны, а машына два месяцы знаходзілася пад арыштам.

12 жніўня Уладзімір разам з іншымі аднадумцамі выйшаў насупраць аблвыканкама з фатаграфіяй 5-гадовай дзяўчынкі, якая пацярпела ў аварыі з удзелам ваеннай тэхнікі і АМАПа. Такім чынам неабыякавыя людзі выказалі пратэст супраць насілля. Уладзімір разам з іншымі быў затрыманы і моцна збіты, пасля чаго 10 дзён знаходзіўся ў шпіталі. Нягледзячы на гэта, на яго склалі адміністрацыйны пратакол за парушэнне правілаў правядзення масавага мерапрыемства. Абвінавацілі ў тым, што дэманстраваў плакат з дзіцем у крыві.

І вось 7 кастрычніка справа разглядалася ў Ленінскім судзе Гродна. Цікава, што суддзя **Мікалай Сяргейка** так і не змог высветліць у сведак-міліцыянераў, чаму адміністрацыйны пратакол, складзены па падзеях аж 12 жніўня, быў перададзены ў суд толькі 6 кастрычніка.

Паводле слоў гродзенскага праваабаронцы **Рамана Юргеля**, які сачыў за працэсам, многае на ім уражвала. У прыватнасці, тое, як суддзя выбарачна задавольваў хадайніцтвы адваката Уладзіміра Родчанкі.

Той прасіў, каб на судзе апыталі супрацоўнікаў міліцыі, якія складалі рапарты і пратаколы, супрацоўнікаў АМАПа, якія прымянялі сілу, дактароў “хуткай дапамогі”, якія даставілі Родчанку з міліцыі ў шпіталь. Суд, аднак, задаволіў толькі хадайніцтва аб апытані двух міліцыянераў. А тыя ў сваю чаргу, як заведзеныя, паўтаралі: не ведаю, не памятаю.

Адвакат звяртаў увагу суда на парушэнні тэрмінаў пры складанні рапартаў і пратаколаў. Аказалася, што тэксты ў іх супадаюць і нават лексічныя памылкі адны і тыя ж.

*“Рапарты складалі не тыя супрацоўнікі, якія затрымлівалі Родчанку і яго аднадумцаў, а тыя, хто нават не прысутнічаў на месцы падзей. Ніхто з іх не мог засведчыць, дзе і як Родчанка пікетаваў і ці пікетаваў наогул,* – падкрэслівае Юргель – *Гэтага ўжо было дастаткова, каб спыніць разгляд справы”*.

Родчанка распавёў у судзе, што ў мікрааўтобусе, на якім яго з іншымі везлі ў міліцыю, іх паставілі на калені ў праходзе, з іх здзекаваліся, білі, ім пагражалі і размалявалі маркерамі. Білі таксама ў РАУС. Але гэтыя акалічнасці суд не зацікавілі.

Міліцыянер Казлоўскі, які выступаў сведкам у судзе, заявіў што Родчанку не білі, рукі яго не былі счэплены пластыкавай сцяжкай і яму патлумачылі яго правы перад апытаннем у міліцыі. А вось гэта сведчанне было прынята як належнае.

У судзе Родчанка віны не прызнаў і мае намер абскардзіць рашэнне суда ў вышэйшай інстанцыі.

Праваабаронца Юргель пасля вынесенага судом рашэння звяртае ўвагу на тое, што ў краіне насамрэч наступіў прававы дэфолт і дабіцца праўды ў судах стала не проста праблематычна, а нават немагчыма.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# «Цырк» токара Крахмалава




## «У мяне забастоўка»

17 жніўня Валерый Крахмалаў прыйшоў на працу і сеў каля свайго станка. У журнале зменнага задання, якое давёў яму старшы майстар цэха Гаўрыленка, “бунтаўшчык” Крахмалаў уласнаручна напісаў: “У мяне забастоўка”. 18 жніўня зноў за сваё: “У мяне забастоўка”.

Токара шостага разраду Валерыя Крахмалава дырэкцыя ААТ “Гомсельмаш” звольніла ў жніўні калі не з радасцю, то з вялікім задавальненнем. Валерый не трыбун, не рэвалюцыянер і нават не апазіцыянер у класічным разуменні гэтага слова. Ён звычайны рабочы, але з прынцыпамі, пачуццём уласнай годнасці і ўяўленнем аб справядлівасці.

Ягоны нядаўні начальнік цэха **Сяргей Галактыёнаў** заяўляў у судзе, што Крахмалаў – добры спецыяліст, а вось дысцыпліна ў яго “кульгае”. Ён асабліва не расшыфроўваў, у чым было тое “кульганне”, сказаў толькі, што ў чэрвені Крахмалаў “зладзіў цырк” на прахадной, а ў жніўні страйкаваў на працоўным месцы.

Пад загадам аб звальненні падпісаўся намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце, кадрах і сацыяльных пытаннях **Аляксандр Канапацкі**. Кадры і праўда вырашаюць усё.

Цэхавае начальства да токара: маўляў, ты што – з дуба зваліўся? Якая забастоўка?!

Аднак і 19 жніўня Валерый працягваў сядзець на працы. Цярпенне ў начальства лопнула. Дырэкцыя “Гомсельмаша”, заручыўшыся падтрымкай афіцыйнага прафсаюза, звольніла Крахмалава з завода на падставе п.6 артыкула 42 Працоўнага кодэкса – невыкананне без уважлівых прычын працоўных абавязкаў работнікам, які мае непагашанае дысцыплінарнае спагнанне. Токар падаў у суд на дырэкцыю.

– Я не стаў бы гарадзіць агарод, калі б звальненне не абгрунтоўвалася як сістэматычнае невыкананне працоўных абавязкаў. Непагашаная вымова ў мяне была не за працу, а за канфлікт на прахадной, – кажа Крахмалаў.

## Канфлікт на прахадной

У чэрвені, калі тэмпература сягала за 30 градусаў, а каранавіруснымі хворымі былі забіты нават няпрофільныя шпіталі Гомеля, Крахмалаў пасля змены ішоў на прахадную – тую, што выходзіць на вуліцу генерала Яфрэмава.

На прахадной кантралёрка **Дзіяна Лазоўская** запатрабавала ў Крахмалава сумку на праверку. Валіза ў Валерыя сантыметраў 40х30х20, у ёй ён носіць тэрмас з кавай альбо гарбатай, бутэрброды для перакусу, медыцынскія маскі, каб засцерагчыся ад COVID-19, ды чыстую насоўку.

Токар паказаў сваю сумку, правераную да гэтага металадэтэктарам, “маланку” расшпіліў. Лазоўская памкнулася залезці ў сумку рукамі. На іх хоць і былі пальчаткі, але правярала кантралёрка ўжо многіх, і рукі перад даглядам чарговай сумкі антысептычным растворам не апрацавала. Токар спыніў кантралёрку: “А даведка аб адсутнасці каранавіруса ў цябе ёсць?”

Не стаў Валерый і выкладваць свае рэчы на стол, бо не бачыў, каб яго праціралі, пасля таго як прайшоў паток сяльмашаўцаў. Тут усё і закруцілася. Кантралёрка выклікала старшага інспектара змены, каб зрабіць паглыблены дагляд токара Крахмалава. А той, абурыўшыся на няўвагу да каранавіруснай перасцярогі, стаў здымаць на мабільны тэлефон, як працуе кантралёрка: пры кантактным даглядзе сумак пальчаткі не мяняе, антысептычным растворам іх не апрацоўвае, дыстанцыю не захоўвае.

Здымаючы відэа, токар трапіў у новую пастку – любыя фота- і відэаздымкі без спецыяльнага дазволу на тэрыторыі “Гомсельмаша” забаронены правіламі ўнутранага распарадку. А прахадная – таксама заводская тэрыторыя. Супраць Крахмалава склалі акт на затрыманне і парушэнне тых самых правілаў. І паглыблены дагляд сумкі токара правялі, не знайшоўшы там нічога сяльмашаўскага – ні балтоў, ні гаек, ні ключоў.

Інцыдэнт на прахадной меў для токара Крахмалава наступствы: начальнік цэха Галактыёнаў пакараў яго вымовай і пазбавіў прэміяльных.

Валерый звярнуўся ў камісію па працоўных спрэчках “Гомсельмаша”. Там параіліся і вырашылі, што двайное пакаранне – гэта зашмат: адмену прэміяльных скасавалі, а вымову – пакінулі. Праўда, цэхавае начальства праз нейкія паўтара месяца ўзяло рэванш: прапанавала дырэкцыі не працягваць кантракт з непакорлівым токарам. Бо мала таго, што ён на прахадной відэа здымае, дык і на суботнік можа махнуць рукою.

У судзе, які адбыўся напрыканцы верасня, токар Крахмалаў і яго прадстаўнік, прававы інспектар Незалежнага прафсаюза РЭП **Леанід Судаленка**, тлумачылі “цырк” на прахадной як вымушаную меру дзеля абароны здароўя. Без відэа токару не было б веры, што тут грэбуюць рэкамендацыямі Міністэрства аховы здароўя наконт каранавіруснай інфекцыі.

*“Я вымушаны быў зняць усё гэта на відэа, каб даказаць, што правілы засцярогі ад каранавіруса на прахадной парушаюцца”*, – расказваў, у прыватнасці, сам звольнены токар.

Прадстаўнік дырэкцыі “Гомсельмаша” ў судзе **Іван Пархоменка** ў сваю чаргу заявіў, што рэкамендацыі медыцынскага ведамства адносна каранавіруса не мелі характару *“імператыўнага патрабавання”*. Апроч таго, токар пасля дагляду *“не захварэў на CAVID”*, *“рэчы свае не выкінуў”*. Дый відэа ён здымаў ужо пасля дагляду – *“відэаздымка не накіравана на забеспячэнне свайго здароўя”*. Пархоменка наогул перакананы: гэта быў *“здзек з боку токара”*, бо забяспечыць кантралёраў пальчаткамі на кожную праверку практычна немагчыма – праз прахадную ідуць блізу дзвюх тысяч рабочых. *“Гэта ўсё адно, што патрабаваць ад касіра ў краме мяняць пальчаткі пасля кожнага пакупніка”*, – параўноўваў Пархоменка.

Суддзя Чыгуначнага раёна Гомеля **Юліяна Файзуліна**, якая разглядала іск токара Крахмалава да сяльмашаўскай дырэкцыі, высвятляла таксама, чаму ён вырашыў страйкаваць?

– Я падтрымаў агульнарэспубліканскую забастоўку, – адказаў токар.

– А хіба была забастоўка?

– Я прачытаў у СМІ, што былі забастоўкі ў розных гарадах.

– Ці вылучаліся працоўныя патрабаванні?

– Мае патрабаванні – палітычныя.

Выслухаўшы бакі, сведак, пракурора, прааналізаваўшы дакументы па справе, суд не знайшоў падставы для задавальнення іску токара Крахмалава і аднаўлення яго на працы.

## «Паўплываць на кіраўніцтва інакш не мог»

Калі сустрэць 47-гадовага Валерыя Крахмалава выпадкова і не ведаць, чым ён займаецца, то адразу не скажаш, што ён звычайны рабочы. Інжынер, навуковец, урэшце святар – усё яго аблічча ўказвае на прыналежнасць да высокага інтэлектуальнага або духоўнага занятку. І погляд – уважлівы, заглыблены, нібы мікрометр, якім часцяком правяраецца яго прадукцыя, выробленая на такарным станку. Такому “чаркі і скваркі” не тое што мала, гэта наогул не яго вымярэнне.

Пасля прафесійнага вучылішча, дзе Валерый засвойваў прафесію станочніка, яму давялося працаваць на вагонарамонтным заводзе, прадпрыемстве станочных вузлоў. Апошнія паўтара дзясятка гадоў працоўнай біяграфіі Крахмалава былі звязаны з ААТ “Гомсельмаш” – спачатку на ЗЛІНе, потым восем гадоў – у цэху тэхнічнага абслугоўвання і рамонту станкоў на галаўным прадпрыемстве.

Пацікавіўся ў токара: што падахвоціла яго да дэманстратыўнай “сядзячай” забастоўкі?

– Я абурыўся несумленнымі выбарамі, афіцыйным падлікам іх вынікаў, здзекам з мірных дэманстрантаў. Сам я быў незалежным назіральнікам на ўчастку ў 17-й школе імя нейкага героя-рэвалюцыянера Венесуэлы Францыска дэ Міранды, адкуль мяне выдалілі. Паўплываць на кіраўніцтва Беларусі я ніяк інакш не мог, таму і далучыўся да забастоўкі рабочых Мінска і Салігорска. Толькі праз забастаўку кіраўніцтва можа зразумець, што народ не задаволены сітуацыяй, сваім становішчам. У нас жа пасля 1994 года не было сумленных выбараў, – зазначыў Крахмалаў.

Ён не здзіўляецца, што забастоўку, па сутнасці, ніхто на заводзе не падтрымаў. Былі спробы сабрацца на траспартнай прахадной, аднак начальства перастрэла рабочых і вярнула на працоўныя месцы.

– “Гомсельмаш” – прадпрыемства праблемнае, шмат маладых спецыялістаў масавых прафесій звольнілася. Паехалі ў Польшчу, Чэхію, Расію. Засталіся пераважна тыя, каму да пенсіі сем, пяць, а то і менш гадоў. Яны баяцца выходзіць пратэставаць, баяцца апынуцца за прахадной завода і пенсіі не атрымаць.

Сам Крахмалаў не перажывае з нагоды звальнення. Няма асабліва аб чым гараваць. Атрымліваў на “Гомсельмашы” крыху больш за 700 рублёў.

– Хіба гэта грошы для сям'і, няхай сабе і з трох чалавек, як у мяне? Большая частка ідзе на харчаванне, астатняе – на камунальныя плацяжы. Год трэба эканоміць, адкладваць, каб штосьці істотнае прыдбаць, і гэта калі кошты не падвысяцца, – разважае звольнены токар.

На днях Валерый Крахмалаў падзяліўся навіной: працуе ўжо па сваёй спецыяльнасці, і заробак атрымлівае большы.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## І нават на імёны стварылі забароны

Сваю кавярню "Сава" ў вёсцы Лучынаўка, што пад Віцебскам, бізнесмен Яўген Кавалеўскі спачатку перайменаваў у "Света 80%", а потым захацеў даць назву "Света, Маша, Вераніка". Аднак Віцебскі райвыканкам не зацвердзіў назву, бо яна "носіць палітычны характар". Адразу ж з'явіліся правяральшчыкі з санстанцыі, КДК, міліцыі, МНС… Бізнесмен падаў дакументы на новую назву – "Віця, Дзіма, Коля" (так завуць сыноў А.Лукашэнкі) і цяпер гадае, зарэгіструюць яе ці не…

А неблагі даход давала
Кавярня гэтая дзялку!
Таму ён меў даброт нямала
І грошай многа ў кашальку.
І, натуральна, не балела
За лёс уласны галава,
Бо кіраваў дзялок умела
Кавярняй з назваю "Сава".
А потым быў падман каварны
На выбарах… Людская рацць
На плошчы выйшла, і кавярні
Рашыў другую назву даць:
Саперніцаю стала Света
Для Бацькі, іншых акрамя,
Таму і даў дзялок за гэта
Кавярні ейнае імя.
Ды ў Беларусі тры бунтаркі
Былі ў фаворы грамады.
Яны жаночы вобраз яркі
Для нас стварылі назаўжды.
"Увекавечу іх таксама
У назве, – вырашыў дзялок
І ў кабінет райвыканкама
Папер бярэмя прывалок.
– Хай "Света, Маша, Вераніка"
Кавярня назву будзе мець!
Ён на сябе бяду наклікаў,
Нат у турму не трапіў ледзь.
Не даспадобы "бунт" ягоны:
– Ды то ж па сутнасці пратэст!
Забудзь пра гэтыя імёны!
У назве палітычны змест,
І на яе мы стопудова
Табе дазволу не дадзім!
Ды ў тым была бяды палова,
Бяда з'явілася затым,
Калі нахлынулі праверкі
І з КДК, і з МНС:
Хто са стала зграбаў паперкі,
А хто нахабна ў кухню лез.
І рэзультат задужа гадкі –
Хоць ты на ўсё махні рукой:
Дзялка, як кажуць, на лапаткі
Яны паклалі талакой.
І растлумачылі службісты,
Што ён ступіў на шлях крывы,
А мог бы мець прыбытак чысты,
Каб быў пад крыламі "Савы"…

***

І тым не менш зусім магчыма,
Што шанцы страчаны не ўсе
І назва "Віця, Коля, Дзіма"
Дзялку збавенне прынясе…

### Кок

Выслоўем я патраплю ў цэль,
У ім празрысты ёсць намёк:
Сям'я любая – карабель,
Дзе рэй вядзе і правіць кок.

### Не трэба дахаты…

– Ты збіты увесь,
Ты ўвесь такі памяты!
На кожным кроку
Падаеш, як куль!
Давай я завяду цябе дахаты.
– Не трэба,
Бо я толькі што адтуль…

### Страўнік ні пры чым

Жанчыны ледзь не пагалоўна
Пра мужа кажуць спадцішка,
Што шлях да сэрца, безумоўна,
Ляжыць праз страўнік мужыка.
Я нават пасля добрай п'янкі
Пра гэта слухаць не хачу:
Няўжо ён ходзіць да каханкі,
Каб там наесціся баршчу?

### Альтэрнатыва

– Ты пойдзеш на бацькоўскі сход?
– Нашто мне лішні гемарой?
Дачушка, лепш хоць раз у год
Да мора злётаем з табой…

### Запрашэнне ў госці

– Прыходзь, Даніла, сёння к нам, –
Суседа ў госці дзед заве. –
Ды з пляшкай! А калі сто грам
Жадеш выпіць ты і сам,
Дык не адну бяры, а дзве…

ЁСЦЬ ПРАПАНОВА!

# Прыслухаемся да Зянона Пазьняка

Прызнаюся: з нядаўняга часу я перастаў глядзець беларускае тэлебачанне – канчаткова пераканаўся ў яго праўладнай заангажаванасці і хлуслівасці. Калі выпадае свабодны вечар, заходжу ў інтэрнэт і праглядваю навіны на самых розных сайтах. Днямі наткнуўся на выказванне Зянона Пазьняка. Людзі старэйшага ўзросту ведаюць, хто гэта такі, а для чытачоў маладога пакалення патлумачу: ён – адзін з самых актыўных стваральнікаў Беларускага народнага фронту, кіраўнік адпаведнай дэпутацкай фракцыі ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання. З-за рэпрэсій А.Лукашэнкі вымушаны быў эмігрыраваць за мяжу.

Але, дзе б ні знаходзіўся Зянон Станіслававіч, ён дбае пра лёс Беларусі. Вось і ў гэтыя дні ён уважліва адсочвае ўсе падзеі, якія адбываюцца на Бацькаўшчыне. І не толькі адсочвае, але і дае парады. Не з усімі з іх, як мне здаецца, можна пагаджацца, але многія з'яўляюцца сапраўды слушнымі. Яго, напрыклад, хвалюе перспектыва "карнавальных нядзельных шэсцяў" у Мінску. Ён засяроджвае ўвагу ўдзельнікаў мірных пратэстных акцый на тым, што ўлады разам са спецслужбамі могуць засылаць у калоны дэманстрантаў правакатараў, каб потым знаходзіць нагоду для раскручвання рэпрэсій.

Спадар Пазьняк узгадвае 1990-я гады, калі пад сцягамі Беларускага народнага фронту на вуліцы выходзілі дзясяткі тысяч чалавек. Каб пазбегнуць дзеянняў з боку правакатараў, былі створаны дружыны абароны. Кіравалі імі былы кадравы ваенны – палкоўнік Генадзь Банкевіч. Ведаючы пра тое, што пад яго началам знаходзяцца некалькі соцень здаровых, натрэніраваных дзецюкоў, правакатары і блізка не маглі падысці да ўдзельнікаў масавых акцый. Ніхто не мог справакаваць беспарадкі, каб потым ускласці адказнасць на арганізатараў мітынгу ці дэманстрацыі.

Лічу, што, пакуль не позна, трэба прыслухацца да прапановы Пазьняка: мірныя пратэстныя шэсці і ў Мінску, і ў іншых гарадах павінны праходзіць пад аховай спецыяльна створаных дружын. Сёння, калі вялікая колькасць людзей ратуе за перамены, гуртуецца на вуліцах, можна лёгка адшукаць асоб, якія па сваіх маральных і фізічных якасцях падыходзяць для ўключэння ў атрады аховы. Калі б не сталы ўзрост, я сам узяўся б за стварэнне такіх дружын.

А ад тых, хто ініцыяваў бессаромныя фальсіфікацыі вынікаў галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, а затым зладзіў брутальную расправу над мірнымі пратэстантамі, можна чакаць усялякіх правакацый. Будзем пільнымі, шаноўныя браты-беларусы!

**Канстанцін ЗАГОРСКІ, прыхільнік дэмакратычных перамен.**

ПОГЛЯД

# Сорам!

Гэта ж трэба: з Масквы, іншых расійскіх рэгіёнаў запрасіць журналістаў, апаратараў для работы на Беларускім тэлебачанні! Што для іх нашы святыні – мова, культура, гісторыя, традыцыі? А суверэнітэт, незалежнасць? Выкарыстоўваючы наша інфармацыйнае поле, яны, як бачым па іх роліках, хутчэй прытрымліваюцца праімперскіх пазіцый, што адпавядае інтарэсам Крамля, а не беларускага народа.

Так, з каналаў Беларускага тэлебачання ў апошнія два месяцы сышлі многія таленавітыя журналісты, работнікі іншых профіляў. Тут бы спадару Івану Эйсманту, кіраўніцтву Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь задумацца, чаму творчыя людзі не згодны з той ідэалагічнай палітыкай, якая навязваецца ім зверху. Дык не – на месца тых, хто не здрадзіў свайму сумленню, сваёй прафесіі, яны запрасілі "ворягов".

Што ні кажыце, спадарства, а гэта сорам! Лічу: трэба як мага хутчэй купіць квіткі на самалёты, цягнікі і адправіць штрэйкбрэхераў туды, адкуль яны прыехалі да нас.

**Сяргей НАВАРЫЧ.**

БЕСХОЗЯЙСТВЕННОСТЬ

# Как столичные дорожники «распиливают» налоги граждан…

Мой путь на работу лежит через улицу Притыцкого. Никогда не замечал, что асфальт от Кунцевщины до перекрестка, на котором разместились два торговых центра – «Материк» и «Green», нужно менять. Если где-то когда-то и появлялась трещинка, то она заделывалась, и у водителей не было никаких претензий.

Но вот еду на днях и глазам не верю: на участке длиной примерно в километр вся проезжая часть вспорота, и ведется укладка нового покрытия. Считаю это самой настоящей бесхозяйственностью! Что, в столице нет для дорожников другого фронта работы? Посмотрите, в каком ужасном состоянии находятся дворы многих домов. Вот где нужен асфальт!

Между прочим, в городскую черту входят или вот-вот войдут многие находящиеся поблизости деревни. Так вот я вижу, сколько улиц в них вообще не заасфальтировано. Люди за свои деньги построили дома, провели газ, электричество – почему бы за счет бюджетных денег не сделать благоустройство улиц?

А на улице Притыцкого со стороны Кунцевщины всё было нормально. Так нет же, кому-то взбрело в голову ломать хороший асфальт и класть новый. При такой бесхозяйственности наша страна никогда не станет процветающей!

**Федор КОЗЛОВСКИЙ.**



САЛІДАРНАСЦЬ

# Дзякуй табе, Наталля!

Сённяшні боль Беларусі адгукаецца ў сэрцах многіх людзей ва ўсім свеце. Вось і Наталля Хершэ, якая нарадзілася ў Маладзечне, але ўжо больш за дзесяць гадоў жыве ў Швейцарыі, вырашыла прыехаць на Радзіму, каб падтрымаць землякоў у адстойванні іх правоў, чалавечай годнасці.

З публікацыі "Не магла застацца ўбаку" ("Народная Воля" за 2 кастрычніка) я даведалася, што спадарыня Наталля брала ўдзел у жаночым маршы ў Мінску 19 верасня. Такім чынам яна вырашыла выказаць салідарнасць з усімі беларусамі, якія пратэстуюць супраць беззаконня ўлад – яны не толькі сфальсіфікавалі вынікі галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, але і ўчынілі страшэнны гвалт над людзьмі падчас мірных вулічных акцый. Наталля абуралася, калі яе хапалі амапаўцы: "Якое права вы маеце нас затрымліваць? Што мы парушылі?" Але ніякіх слоў істоты ў балаклавах і слухаць не хацелі, яны нахабна запіхнулі ў аўтазак Наталлю, і 22 верасня суд Савецкага раёна г.Мінска пакараў яе 15 суткамі арышту паводле артыкула 23.34 аб масавых мерапрыемствах.

Я ўпэўнена: мужная спадарыня Хершэ вытрымае такі здзек з боку беларускіх улад. Але што яна раскажа швейцарцам, калі вернецца дахаты? Ці будзе гэта спрыяць прэстыжу нашай краіны на міжнародным узроўні? Вядома ж, не. А значыць, вакол нас ствараецца вакуум, Беларусь становіцца ізгоем. Усе, хто раней імкнуўся ўстанаўліваць шчыльныя стасункі з ёю, цяпер моцна задумаюцца, а ці трэба мець нейкія кантакты з краінай, дзе душаць людзей за іх дэмакратычныя погляды, дзе фальсіфікуюць вынікі выбараў, дзе дыктатура не хоча перадаваць уладу ў рукі народа.

Праз газету "Народная Воля" перадаю Наталлі словы падтрымкі, хачу пажадаць ёй і надалей выказваць салідарнасць з землякамі. Моцнага здароўя і мужнасці табе, дарагая!

**Раіса МАЦКЕВІЧ, гамяльчанка.**

ЖЫЦЦЁ Ў ГЛЫБІНЦЫ

# Гаспадар і гаспадыня

*Вяртанне на малую радзіму Андрэя і Ларысы Гуляшовых*

*І мы не аборай хлеб краім!*
**Леанід Левановіч, пісьменнік**

Сустрэцца з імі мне пашчасціла зусім выпадкова. І, прызнаюся, не расчараваўся, што пазнаёміўся з працавітымі і шчырымі людзьмі, якія жывуць у вёсцы Кароўчына, што ў Дрыбінскім раёне.

– Гуляшовы? Вунь на той крайняй вуліцы іх дом, – паказаў першы стрэчны вясковец, які каціў па тратуарнай дарожцы на ровары.

Выйшаўшы з хаты (відаць, убачыла з акна), сустрэла нас гаспадыня – маладжавая сімпатычная жанчына. Тут жа, на падворку, разгульвала немалая індычыная чарада, а з будкі адгукнуўся брэхам пільны вартаўнік сядзібы.

– А гаспадара няма – ён недзе пасвіць кароў.

Едзем за вёску разам з Варварай, дачкой Гуляшовых. Расказвае, што маці з чатырох гадзікаў вучыла яе даіць кароў. А вунь яны пасвяцца паводдаль. Мінулая зіма была бясснежная, і жывёлы добра адчувалі сябе на прыволлі.

Ад Андрэя, які прыглядвае за каровамі, даведваюся, што падсобная гаспадарка ў яго немалая: карова, бычок, двое коней, жарабя, пяць козачак з казляняткамі і аж сорак авечак. А яшчэ ж ёсць трусы, індыкі, качкі, куры. І пчальнік. Так што сям'я круглы год са сваімі прадуктамі: і з малаком, і з мясам, і з сырам, а яшчэ і з мёдам! І з хлебам таксама.

Нарэшце мы на сядзібе. Непадалёку ўзвышаецца ладная куча наколатых дроў.

– Абыходжуся без бензапілы, – заўважае Гуляшоў-старэйшы, – ёсць ручная.

Ён ветліва запрасіў у хату, бо на вуліцы холадна і ветрана. Дзелавіта, з веданнем справы павёў нетаропкую гаворку.

Даведваюся, што сям'я некалі жыла ў горадзе. Андрэй працаваў вадзіцелем у Горацкім райаграпрамтэхзабеспячэнні. А будучая жонка тады яшчэ вучылася ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце. Яны абодва з Кароўчына, вучыліся ў адной школе, калісьці разам ігралі ў ансамблі.

Калі ажаніліся, сталі здымаць кватэру. А потым, у 1999 годзе, вярнуліся з горада ў вёску, на сваю малую радзіму. З таго часу і жывуць тут. На першых парах месціліся ў бабульчыным доме, а затым, калі абзавяліся капейчынай, і жыллё сабе купілі. Вось гэтую старэнькую хаціну, якая лічы што на водшыбе вёскі стаіць. У самым канцы вуліцы.

Спачатку ў калгасе працавалі. Андрэй быў і даглядчыкам жывёлы, і памочнікам камбайнера, і самім камбайнерам. І састарэлых аднавяскоўцаў разам з жонкай даглядалі.

Але ў рэшце рэшт вырашылі пайсці, як кажуць, на свой хлеб. Гадоў шаснаццаць таму пачалі абзаводзіцца ўласнай гаспадаркай. Карова, конь з'явіліся на іхнім падворку. З часам сфарміраваўся дойны статак. Пачалі здаваць малако дзяржаве. За месяц больш за тону прадавалі.

Нялёгка старэйшым Гуляшовым спраўляцца з гаспадаркай. Дапамагаюць дачка Варвара і сын Раман. Крыўдна, што ўлады ствараюць нямала праблем.

– Напрыклад, неабходна сена з луга прывезці, зламалася аглобля. Каб замяніць яе новай, дык спачатку едзь у лясніцтва, выпісвай нейкую жэрдку. А надвор'е не чакае, можа і дождж пайсці, сапсаваць кармы, – у сэрцах кажа Ларыса Аляксандраўна.

– Падаткаў шмат. Але справа не столькі ў падатках, колькі ў стаўленні да нас, вяскоўцаў, з боку мясцовых улад, – падтрымлівае гаворку Андрэй. – Мяса рэалізоўваць дазваляюць толькі праз дзяржаўную бойню, што для нас, можна сказаць, нязручна і нявыгадна. Вунь з рэстарана папрасілі бараніну, трусяціну. І па кошце абодва бакі згадзіліся. Але папярэдзілі: возьмем толькі праз бойню. А што, мы самі не можам усё зрабіць як трэба?

– Цяпер вунь абавязваюць, каб у жывёлы былі чыпы. Без іх ні на які мясакамбінат не возьмуць мной выгадаваную скаціну. І калі камерсанты не забяруць, то куды тады нам яе дзяваць? – бядуе гаспадар.

Але жыць жа неяк трэба. Вось і выкручваюцца як могуць. Нават хлеб самі выпякаюць. Смачны!

Прачулі неяк пра Гуляшовых у Мінску. Прыехалі тэлежурналісты, зрабілі перадачу. На ўсю краіну паказалі. Які гонар для сям'і! Але ж яго Гуляшовы заслужылі. Тым жа гасцям са сталіцы Андрэй паказаў, як правільна кляпаць і мянташыць касу, каб трава роўнымі пакосамі клалася за касьбітам. А касіць – не языком ляпаць. У летнюю спякоту пот градам коціцца з твару! А тут яшчэ надакучлівыя камары спакою не даюць…

Вось чаму трэба з павагай ставіцца да Гуляшовых, якія вярнуліся на малую радзіму, каб сваёй працай упрыгожваць родную зямлю, а жыццё рабіць больш радасным.

**Іван ЛАПО, ветэран працы.**



**На здымку: Андрэй і Ларыса Гуляшовы.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ…

# В Польше власти пошли бы на перевыборы…

Удивляюсь крючкотворству ведомственных чиновников. Чтобы увести власть и конкретных должностных лиц от ответственности за фальсификации при подсчете голосов на президентских выборах, на какие только демагогические уловки не идут! Вот министр иностранных дел В.Макей, вступая в полемику с европейской политической элитой, заявляет: «Сложно представить, например, что мы увидели бы перевыборы в Польше, если бы мы в Евразийском экономическом союзе или Организации Договора о коллективной безопасности решили, что на них победил Рафал Тшасковский, а не Анджей Дуда». Что сразу бросается в глаза, когда читаешь эти строки? Господин Макей, как говорят, смешал боб с горохом. А точнее – наводит тень на плетень.

Как возник вопрос о перевыборах в нашей стране? Не польские власти об этом первыми заговорили. Белорусский народ возмутился сплошной подтасовкой голосов в тот поздний вечер 9 августа, когда почти на всех избирательных участках даже не появились итоговые протоколы. Только один этот факт дает основания для того, чтобы признать выборы недействительными.

Неужели министру иностранных дел не известно, сколько всплыло материалов в независимой печати, на различных сайтах, в соцсетях о том, к каким приемам прибегали председатели и члены участковых комиссий, фальсифицируя результаты голосования? Многочисленные аудиозаписи свидетельствуют о том, какие противозаконные действия предпринимали главные местные вертикальщики. На тех участках, где убедительную победу одержала Светлана Тихановская, они в принудительном порядке заставляли переписывать протоколы.

Да что и говорить: состоялись не выборы, а очередное назначение А.Лукашенко президентом. Не мог народ смириться с таким явным обманом. А потому и вышел на улицы. И будет отстаивать свое право на справедливость до конца. Чем скорее состоятся в стране перевыборы, которые должны пройти на демократической основе, тем скорее Беларусь заживет нормальной жизнью.

Мой ответ Макею: не поляки поставили вопрос о перевыборах президента в нашей стране, а мы, белорусы. Польское руководство, как и политическая элита многих других цивилизованных государств, лишь поддерживает наш народ в отстаивании демократии, права на свободу волеизъявления.

А что касается перевыборов в самой Польше, то они, господин Макей, обязательно были бы, если бы избиратели пришли к выводу, что результаты голосования по чьей-то воле сфальсифицированы. В Польше, как и во всех демократических странах, выборы проводятся честно, а если возникают какие-то вопросы, то их рассматривают открыто, не утаивая от общественности даже незначительные факты.

И хочу повторить: не польское руководство виновато в том, что в Беларуси с каждым днем обостряется вопрос о проведении новых президентских выборов. Этого требует народ, который (если вы, господин Макей, читали Конституцию) является единственным источником власти.

**Евгений КОРБАН, избиратель.**

РАКУРС

## Чаму Святлана Ціханоўская ў міждзяржаўным вышуку?

*Калі Святлана Ціханоўская прыедзе ў Расію, яе чакае затрыманне і экстрадыцыя ў Беларусь. Пра гэта ўчора сказаў намеснік старшыні камітэта Дзярждумы Мікалай Рыжак. Справа ў тым, што экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі ўключана ў базу асоб, якія знаходзяцца ў вышуку.*

Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі пацвердзіла, што Ціханоўская сапраўды ў вышуку і гаворка ідзе пра крымінальную справу, але што менавіта ёй інкрымінуецца, прэс-сакратарка МУС не паведаміла і параіла звяртацца за каментарыямі ў Следчы камітэт. Але там – цішыня, за два дні ніводнага афіцыйнага тлумачэння на гэты конт!

Затое МУС Расіі на сваім афіцыйным сайце рэмясціла такі каментарый: *"Крымінальных спраў у дачыненні да Святланы Ціханоўскі праваахоўнымі органамі Расійскі Федэрацыі не распачыналася. Яе прысутнасць у базе асоб, якія адшукваюцца, размешчанай на сайце МУС Расіі, тлумачыцца тым, што Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтр МУС Расіі ажыццяўляе фарміраванне і вядзенне Міждзяржаўнага інфармацыйнага банка, які функцыянуе на падставе пагаднення аб ўзаемаадносінах міністэрстваў унутраных спраў у сферы абмену інфармацыяй ад 3 жніўня 1992 года і Пагаднення аб абмене інфармацыяй у сферы барацьбы са злачыннасцю ад 22 мая 2009 года, заключанымі ў рамках СНД. Гэты банк фарміруецца ў адпаведнасці з Рэгламентам кампетэнтных органаў па ажыццяўленні міждзяржаўнага вышуку асоб, зацверджаным у 2015 годзе Рашэннем Савета кіраўнікоў урадаў СНД".*

Сама Святлана Ціханоўская пра тое, што знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку, даведалася з навін.

ТЫМ ЧАСАМ

### Святлана Ціханоўская сустрэлася з прэзідэнтам Славакіі

Зузана Чапутова выказала падтрымку беларускаму народу і пацікавілася, якім чынам могуць выглядаць перамовы аб новых выбарах у Беларусі, а таксама якія краіны могуць удзельнічаць у іх медыяцыі.

Беларуска падарыла прэзідэнту Славакіі кнігу «Краіна Беларусь» у перакладзе на англійскую мову.

**Павел МАЗАК.**

СЛЫШАЛИ?

## Варшава оштрафовала «Газпром» на 7,5 миллиарда долларов

Как рассказал глава польского антимонопольного регулятора – Управления по охране конкуренции и потребителей (UOKiK) – **Томаш Хрустный**, было решено оштрафовать «Газпром» и пять сотрудничающих с ним европейских компаний. Так, на «Газпром» был наложен штраф в размере 29 миллиардов злотых (7,6 миллиарда долларов), а на компании – 385 миллионов злотых (100 миллионов долларов), передает ТАСС.

По данным регулятора, компании нарушили польское антимонопольное законодательство. Кроме штрафа, согласно решению UOKiK, компании должны разорвать договор о строительстве газопровода в течение 30 дней.

Ранее сообщалось, что Международная группа клубов взаимного страхования судовладельцев (International Group of P&I Clubs) решила не предоставлять страховое покрытие судам, которые будут участвовать в строительстве газопровода «Северный поток – 2». Группа страхует 90% кораблей в мире. Причиной называются действующие и возможные санкции в отношении проекта. Решение, которое еще больше осложнит поиск судов, способных достроить газопровод, принято всеми клубами, входящими в Международную группу.

«Северный поток – 2» предполагает две нитки трубопровода общей мощностью 55 миллиардов кубометров в год. Они протянутся от побережья России через Балтийское море до Германии. Коммуникации также пройдут через Финляндию, Швецию и Данию. Европейскими партнерами «Газпрома» являются германские Uniper и Wintershall, австрийская OMV, французская Engie и англо-голландская Shell. Стоимость строительства оценивается в 9,5 миллиарда евро, и половина этой суммы приходится на западные предприятия.

ЭКСПЕРТИЗА

# ОЗХО: Навального отравили «Новичком»

Эксперты Организации по запрещению химоружия подтвердили, что Алексей Навальный был отравлен боевым ядом группы «Новичок», сообщается на сайте ОЗХО.

Результаты анализа образцов мочи и крови Навального показали, что обнаруженный в них ингибитор холинэстеразы имеет структурные характеристики, аналогичные таковым у токсических веществ из списков 1.A.14 and 1.A.15, добавленных к приложению к конвенции о запрете химоружия на 24-й сессии ОЗХО в ноябре 2019 года.

При этом, отметили в ОЗХО, конкретное вещество, которым отравили Навального, в приложении к Конвенции не значится.

Немецкие газеты Der Spiegel и Die Zeit, ссылаясь на источники, ранее писали, что Навальный был отравлен новой, более смертоносной версией «Новичка».

Как написал Навальный в своем блоге, его французский адвокат Вильям Бурдон обратился от его имени в ООН с просьбой расследовать отравление. «*Расследованием будут заниматься спецдокладчик по внесудебным расправам Аньес Калламар и спецдокладчик по свободе слова и выражения Ирен Хан*», – сообщил российский оппозиционер.

В интервью журналисту Юрию Дудю, опубликованном во вторник, Навальный заявил, что, по его мнению, отравление было проведено сотрудниками ФСБ или СВР по указанию Владимира Путина. Навальный заметил, что на причастность Путина к отравлению указывает совокупность фактов: то, что «Новичок» невозможно изготовить вне сложной химической лаборатории, прибытие в Омск по указанию министра здравоохранения группы врачей из Москвы, заявления Путина о том, что Навальный сам себя отравил. Навальный связал покушение с предстоящими выборами в Госдуму.

У СОСЕДЕЙ

## Гендерные квоты: как политические партии в Украине выполняют это требование

Согласно новому избирательному законодательству, местные выборы, которые пройдут в Украине 25 октября, среди прочего предусматривают обязательную гендерную квоту и ответственность за ее несоблюдение. Гендерный баланс предусматривает, что в избирательном списке партий должно быть не менее 40% представителей одного пола: в каждой пятерке списка должен соблюдаться принцип «пять кандидатов – две женщины». Если же это требование партия проигнорирует, ее не зарегистрируют. С какими подводными камнями на пути соблюдения этого требования встречаются политические партии, выясняла *DW*.

### Баланса путь закрыт

На местных выборах гендерную квоту впервые ввели в 2015 году. Но тогда санкций за ее несоблюдение не было. Теперь же впервые в истории Украины избирательная комиссия не зарегистрирует список партии, нарушившей принцип гендерной квоты. И такие случаи уже есть на практике. По данным общественной сети «Опора», из-за нарушения гендерной квоты в городе Здолбунов Ровенской области городская избирательная комиссия отказала в регистрации кандидатам партий «Слуга народа» и «Наш край». Та же участь постигла партию «Свобода» в Житомире, а также партии «Батькивщина» и «Гражданская позиция» в Збараже Тернопольской области.

### Принцип квоты: «пять кандидатов – две женщины»

Показательно, что в списках политических партий, которые имеют больше шансов пройти в Киевский городской совет, гендерное соотношение «сдвинуто» в пользу мужчин. К примеру, в списке партии "УДАР" Виталия Кличко 60% мужчин и 40% женщин. Сходная ситуация в партиях «Голос», «Слуга народа», «Батькивщина», «Европейская солидарность».

РЕАКЦИЯ

## Политическая нестабильность в Беларуси повышает риски транзита газа в Европу

Неопределенность развития политической ситуации в Беларуси создает риски для транзита российского газа в Европу по газопроводу «Ямал–Европа», предупреждает «Газпром» инвесторов в меморандуме нового выпуска еврооблигаций в разделе «Факторы риска».

«*Текущая политическая нестабильность в Беларуси и неопределенность относительно дальнейшего развития ситуации также увеличивают риски для текущей деятельности нашей дочерней компании ОАО «Газпром трансгаз Беларусь», в частности, риски сбоев в транзите нашего газа по белорусскому участку газопровода «Ямал–Европа»*, – говорится в меморандуме.

Газопровод «Ямал–Европа» протяженностью свыше 2 тысяч километров идет от российского Торжка до германского Франкфурта-на-Одере. Его мощность составляет 33 миллиарда куб.метров газа в год, или 90 миллионов куб.метров в сутки.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Состояние миллиардеров мира достигло рекордных 10,2 триллиона долларов

Об этом говорится в совместном исследовании консалтинговой и аудиторской компании PwC и банка UBS.

Предыдущий пик в 8,9 триллиона долларов был зафиксирован в 2017 году.

Количество миллиардеров увеличилось до 2,189 тысячи по сравнению с 2,158 тысячи в 2017 году.

При этом в отчете также указываются данные на начало апреля текущего года. Тогда в мире насчитывалось 2,058 тысячи миллиардеров (на 43 меньше, чем годом ранее), общее состояние которых составляло 8 триллионов долларов (на 564 миллиарда меньше, чем годом ранее).

Состояние американских миллиардеров с 2009-го по 2020 год выросло на 170% и составляет в настоящее время почти 3,609 триллиона долларов. В материковом Китае стоимость активов богатых людей взлетела в 12,5 раза – до 1,681 триллиона. В Германии показатель увеличился на 175% и достиг 595 миллиардов долларов, в России – на 80% до 467,6 миллиарда, во Франции – на 439% до 443 миллиардов, в Индии – на 90% до 423 миллиардов, в Гонконге – на 208% до 356 миллиардов долларов.

В регионе ЕМЕА (Европа, Ближний Восток и Африка) на конец июля насчитывалось 596 миллиардеров (на 85 больше, чем в прошлом году) с суммарным состоянием в 2,723 триллиона долларов. В том числе их число в России увеличилось за год до 102 (со 100) при росте совокупного богатства на 20%.

СЛЫШАЛИ?

# В Польше полагают, что нашли пропавшую «Янтарную комнату» в трюме затонувшего в Балтийском море парохода «Карлсруэ»

*Польские водолазы нашли обломки немецкого корабля времен Второй мировой войны, который, как они полагают, может помочь разгадать давнюю тайну местонахождения «Янтарной комнаты», бесследно пропавшей из разграбленного нацистами Царского Села.*

«Янтарная комната», богато украшенная янтарем и золотом, была частью Екатерининского дворца под Санкт-Петербургом, но в последний раз ее видели в Кенигсберге (ныне Калининграде). В 1945 году во время эвакуации немцев из Восточной Пруссии из Кенигсберга с тяжелым грузом вышел пароход «Карлсруэ», впоследствии потопленный советскими военными самолетами у берегов Польши. Пароход затонул за 3 минуты, удалось спасти около 100 человек.

Польские дайверы из группы Baltictech уверены, что нашли тот самый затонувший «Карлсруэ», сообщает «Голос Америки».

«*Мы искали обломки с прошлого года, когда поняли, что на дне Балтийского моря может покоиться интереснейшая таинственная история*, – рассказал дайвер **Томаш Стахура**. – *Пароход практически не поврежден. В трюмах мы обнаружили военные машины, фарфор и множество ящиков с неизвестным содержимым*».

«Карлсруэ» принимал участие в операции «Ганнибал» – одной из крупнейших морских эвакуаций в истории, благодаря которой более миллиона немецких солдат и мирных жителей Восточной Пруссии избежали советского наступления в конце Второй мировой войны.

Исторические документы свидетельствуют, что пароход покинул Кенигсберг в спешке, на борту находились 1083 человека и большой груз.

«Все это вместе подстегивает воображение. Обнаружение на дне Балтийского моря немецкого парохода и ящиков с еще неизвестным содержимым может иметь большое значение для всей этой истории», – говорит в интервью *The Guardian* дайвер **Томаш Звара**.

Поиск обломков «Карлсруэ» длился около года. У исследователей были отчеты советских летчиков и рыболовные карты с указанием препятствий на дне, в том числе затонувших кораблей. Группа дайверов отобрала сначала несколько десятков пунктов для проверки, затем круг сузился до 22, и только один из них оказался такого же размера, как пароход. В июне и сентябре дайверы совершили три погружения и сделали снимки судна. Пароход шел на дно вертикально, ударился носом и осел на киль. Он стоит очень ровно, но весь груз сдвинулся вперед, «*машины, ящики – все в беспорядке*», говорит Стахура.

Исследования будут продолжены, но они осложняются большой глубиной и удаленностью от берега.

### История «Янтарной комнаты»

Эта комната была подарена королем Пруссии Фридрихом Вильгельмом I русскому царю в обмен на гренадеров и многочисленную группу военных специалистов и ученых, оказавшихся впоследствии в военных академиях Потсдама. Комната была одним из самых великолепных произведений искусства XVIII века. Это 52 квадратных метра панелей, выложенных из янтаря трех оттенков, украшенных 565 тяжелыми канделябрами, зеркалами, мозаикой и двумя тоннами золота.

В 1941 году солдаты вермахта вывезли «Янтарную комнату» из царской резиденции и доставили ее в замок Кенигсберга. В 1945 году ее следы затерялись. Советская комиссия по расследованию, возглавляемая историком-искусствоведом Александром Брюсовым, пришла к выводу, что Янтарная комната сгорела под бомбами в 1945 году.

Но в 2000 году Германия передала России фрагменты подлинной «Янтарной комнаты». Эта мозаика была конфискована тремя годами ранее у некоего нотариуса, которому ее передал на временное хранение немецкий офицер, участвовавший в вывозе сокровища из Царского Села.

Поиски пропавшей «Янтарной комнаты» продолжаются до сих пор. Одни эксперты считают, что она может находиться в тоннелях под Пещерой Принца (Рудные горы) в районе города Хартенштайна под Дрезденом на юге Саксонии, другие уверены, что ее спрятали в заброшенных шахтах в Силезии, третьи доказывают, что она зарыта в северной части полуострова Ютландия (Дания). "Янтарную комнату" ищут также в катакомбах в Калининграде и в США, куда ее, по одной из многочисленных версий, могли отправить в качестве оплаты поставок по ленд-лизу.

Сейчас в Царском Селе можно увидеть точную копию "Янтарной комнаты", укредённой во время войны. Реставраторы воссоздали ее по фотографиям и описаниям. Работы продолжались 23 года и завершились в 2003 году. Реставрация обошлась в 11,35 миллиона долларов. Для создания убранства комнаты было использовано шесть тонн янтаря из Калининградского месторождения.

КАРЦІНА ЖЫЦЦЯ

# Паўтысячны штраф маці-гераіні, не падкаванай юрыдычна

*Суддзя Навабеліцкага раёна Гомеля **Дар'я Аскерка** 6 кастрычніка аштрафавала валанцёрку, маці пяцёх дзяцей **Таццяну Максімаву** на 540 рублёў за ўдзел у несанкцыянаваным маршы пратэсту супраць сфальсіфікаваных выбараў.*

Насамрэч шматдзетная маці ў маршы 20 верасня не ўдзельнічала, а разам з іншымі валанцёрамі аказвала дапамогу гамяльчанам: насіла пітную ваду, заспакаяльныя сродкі, каму было патрэбна, перавязвала пашкоджаную нагу ўдзельніцы маніфестацыі.

Суддзя запыталася ў абвінавачанай маці-гераіні, з якой мэтай яна апынулася ў цэнтры горада, дзе адбываўся марш.

– Я бачыла ў інтэрнэце відэа, як амапаўцы здзекуюцца з людзей, хапаюць іх за рукі, за ногі, цягнуць, валакуць, пырскаюць з газавых балончыкаў. Я проста нераўнадушны чалавек. І паколькі з медустаноў ніхто не дзяжурыў, то мы і дапамагалі, – сказала Таццяна.

– Вы грамадска-палітычным жыццём у грамадстве цікавіцеся – бачылі, што адбываюцца несанкцыянаваныя масавыя мерапрыемствы? У сувязі з чым? – пыталася суддзя.



– Калі вы пра выбары, то я не галасавала за Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку. Я разумела, што адбываецца штосьці не тое, але што шэсці не санкцыянаваныя, я гэтага не ведала.

– Ці з'яўляецца гэта ваша форма падтрымкі людзей удзелам у масавым мерапрыемстве? – дапытвалася суддзя.

Шматдзетная маці пацiскала плячыма: не ведала, што адказаць. Яна дапамагала людзям, якіх амапаўцы б'юць, паліваюць слёзатачывым газам.

– Кажу вам, што я неабыякавы чалавек, я перажываю за сваю краіну і за тое, што ў ёй адбываецца, – адказала Таццяна.

Суддзя стала цікавіцца, ці ведае шматдзетная маці заканадаўства, ці падкавана яна юрыдычна, у тым ліку ў сэнсе ведання закона "Аб масавых мерапрыемствах". Так і запыталася: ці падкавана?

Таццяна адказала, што яна не надта дасвечаная ў заканадаўстве, дазволеныя ці недазволеныя шэсці, яна не высвятляла. Ведае, што паводле Канстытуцыі людзі маюць права на **мірныя** мітынгі і шэсці. Такімі яны і былі ў Гомелі: ніхто грамадскі парадак не парушаў, не брыдкасловіў, не кідаўся на іншых, гарадскую маёмасць не псаваў.

Таццяна Максімава не мае адмысловай медыцынскай адукацыі, у яе іншыя спецыяльнасці – швачка-вышывальшчыца, маляр-тынкоўшчык, камерцыйны агент. На пытанне суда сказала, што навучалася на медыцынскіх курсах, каб аказваць першую дапамогу, калі чалавеку блага. І нават згадала, што акурат 20 верасня дапамагала бінтаваць нагу жанчыне, якую моцна штурхнуў дзяцюк-амапавец: "Ідзі хутчэй!" Жанчыне незадоўга да маршу знялі гіпс пасля пералому, і тут праз грубую сілу ёй ізноў тую ж нагу пашкодзілі.

– Мы на прыступках дзіцячай стаматалагічнай паліклінікі шчыльна перабінтавалі ёй нагу, насунулі пакет замест абутку і давялі да машыны, – расказала Таццяна.

Суддзя Аскерка стала высвятляць, ці апасалася яна сама, выконваючы валанцёрскую працу паблізу маршаў, – усё ж такі пяцёра дзяцей…

– Цяпер, напэўна, усе баяцца. І я баюся, і больш за ўсё – за сваіх дзяцей, за іх будучыню. Хачу, каб яны жылі ў нармальнай, заможнай краіне. І не так, як зараз: каб адчыніць якія-небудзь дзверы, трэба біцца ў дзясятак іншых, – зазначыла шматдзетная маці.

Адвакатка Максімавай Вольга Кабякова падала суду даведкі з жыллёва-будаўнічага кааператыва, што ніхто з суседзяў не мае да яе даверніцы прэтэнзій, што Таццяна жыве з мужам і пяцярымі дзецьмі, копіі пасведчання шматдзетнай сям'і і пасведчання аб дзяржаўнай узнагародзе – Ордэне Маці.

Не выходзячы ў дарадчы пакой, суддзя Аскерка пакарала маці-гераіню 540-рублёвым штрафам.

Таццяну Максімаву і яшчэ чатырох валанцёраў амапаўцы затрымалі 20 верасня падманным шляхам на прыпынку грамадскага транспарту на вуліцы Рагачоўскай. Трэба, маўляў, праехаць у Савецкі райаддзел міліцыі паглядзець на відэа: ці не яны пашкодзілі лакафарбавую паверхню аўтамашыны? Ну і павезлі. У райаддзеле валанцёраў паўтары гадзіны трымалі ў актавай зале, а потым прыйшлі міліцыянты і сказалі: "Для вас ёсць дзве навіны: добрая і кепская. Добрая: не вы пашкодзілі лакафарбавую паверхню аўтамашыны. Кепская: вы затрыманы за ўдзел у несанкцыянаваным маршы".

Таццяну трымалі ў міліцыі каля пяці гадзін, накрэмзалі адміністрацыйны пратакол па ч.1 арт.23.34 КаАП і да суда адпусцілі.

– У мяне склалася ўражанне, што ўсе гэтыя хапуны дэманстрантаў на вуліцах і суды над імі і мною таксама – гэта нейкі жахлівы цырк, каб толькі людзей запалохаць, прынізіць. Для чаго было сёння мяне дапытваць, нешта ўдакладняць, калі рашэнне прынята загадзя? – сказала "Народнай Волі" пасля суда шматдзетная маці.

Яна дадала, што ў краіне надзвычай патрэбны перамены, каб ініцыятыва і свабода заахвочваліся, а не душыліся, каб дапамога чалавеку ў любой сітуацыі ацэньвалася як дабро, а не злачынства.

– Разумееце, – разважае Таццяна, – мая сям'я жыве не толькі таму, што муж працуе і дзяржава крыху падтрымлівае грашыма. Мая і мужава мамы нам вельмі дапамагаюць. Вось нарадзіліся ў мяне два гады таму двое дзетак. Атрымала мацярынскі капітал – 10 тысяч долараў. Хацелі скарыстаць частку грошай, каб перабудаваць бацькоўскі дом, – сям'я ж вялікая. Не, нельга – трохпакаёвай кватэры хопіць. На лячэнне старэйшых дзяцей – таксама нельга, бо гэта толькі для меншых. І так амаль на кожным кроку.

Накладзены судом больш як паўтысячны штраф маці-гераіня збіраецца аспрэчыць у абласным судзе, хоць вялікіх спадзеваў на адмену пакарання не мае.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

# Беларусы Берліна – RAZAM!

*Святлана Ціханоўская з трохдзённым візітам наведала Берлін, дзе напярэдадні сустрэчы з канцлерам Германіі Ангелай Меркель сустракалася з беларускай дыяспарай і ўвечары каля Брандэнбургскіх варот спявала "Купалінку" разам з мясцовымі беларусамі. Адна з найбольш заўважных актывістак беларускага руху ў Берліне, якая і выконвала вядучую вакальную партыю ў гэтых супольных спевах, – знакамітая спявачка, лідар групы Kriwi **Вераніка КРУГЛОВА**.*

*Пра ўражанні нашай рок-князёўны ад сустрэчы са Святланай Ціханоўскай і пра тое, як беларуская дыяспара ў Берліне змагаецца за вольную Беларусь, мы і пагаварылі з ёй.*

– Што найбольш мяне ўразіла, дык гэта тое, якая Святлана Ціханоўская спакойная, простая і моцная. Калі ў нейкіх пытаннях яна была недастаткова кампетэнтна, то шчыра казала: не ведаю, не магу адказаць. Мне гэта вельмі спадабалася, яна не хацела нас падманваць і выдаваць сябе за кагосьці іншага. Калі яе спыталі, з кім бы яна хацела сустрэцца не як палітык, Святлана адказала, што з мужам Сяргеем Ціханоўскім. І яна ўвесь час дзякавала: беларусам, якія выходзяць па пратэсты і ў Мінску, і ў іншых гарадах, пенсіянерам – што ў панядзелак выходзілі, нам, берлінцам, – што мы тут кожны дзень ладзім розныя акцыі. Мы ж ёй спачатку пра сябе расказалі, як мы ўрэшце знайшлі адзін аднаго. Да ўсіх гэтых падзей я ведала ў Берліне толькі некалькіх беларусаў, а цяпер у нас вялізная суполка, на нашы акцыі збіраецца па некалькі соцень чалавек.

**– Святлана – твой кандыдат, ты ў Берліне галасавала за яе?**

– Несумненна! Я змагла прагаласаваць у пасольстве. А калі пазнаёмілася з ёй, то захапілася яшчэ больш. У Ціханоўскай адчуваецца сіла, адчуваецца ўпэўненасць. Я ёй веру. І хоць сама яна не ўзвышае сябе і кажа, што ў яе "пераходная" роля, я хачу, каб новым прэзідэнтам Беларусі стала жанчына, і менавіта гэтая жанчына. Мы сваёй суполкай крычалі ёй: "Света – наш прэзідэнт!"

**– Пра што ішла гаворка на сустрэчы?**

– Атмасфера была па-хатняму ўтульная, без мітынговасці. Мы задавалі ёй самыя звычайныя пытанні. Гэтую сустрэчу наша наваствоpанае аб'яднанне беларусаў Берліна RAZAM праводзіла ў галерэі мастацтваў, дзе раней ужо была выстава плакатаў у падтрымку Беларусі. Памяшканне не такое вялікае, ды і каранцін… Нас было каля трыццаці чалавек. Мы спыталіся ў Святланы, ці цяжка ёй несці гэтую ношу. Яна адказала: я такі ж звычайны чалавек, як і вы, але назад дарогі няма. Расказвала, што ў яе надзвычай інтэнсіўны графік, і яна, канешне, стамляецца, але ж трэба ісці далей. Перад сустрэчай з намі, напрыклад, паспала толькі тры гадзіны. Але ўсё роўна Святлана цудоўна выглядала, цудоўна гаварыла.

Наша вядучая Сафія пачынала весці сустрэчу на беларускай мове, і Святлана таксама адказвала па-беларуску. Але потым выбачылася, што ёй пакуль трохі складана выказаць усе свае пачуцці па-беларуску. Але яна працуе над гэтым пытаннем: у яе камандзе ёсць завядзёнка хаця б гадзіну на дзень старацца размаўляць па-беларуску. Мы, як пачулі гэта, таксама вырашылі: і нам трэба так зрабіць!

**– Увечары Святлана Ціханоўская пабывала і на беларускай акцыі ля Брандэнбургскіх варот, і ты разам з ёй заспявала "Купалінку". Як гэта атрымалася?**

– А я падышла да яе на нашай дзённай сустрэчы, прадставілася, сказала, што артыстка з Беларусі – група Kriwi, "Народны альбом". І папрасіла, каб яна разам з намі ўвечары заспявала. Святлана трохі сумелася, сказала, што не ўмее спяваць, але пагадзілася. І супольная "Купалінка" ўсё ж прагучала.

**– А як ты трапіла ў гэты беларускі берлінскі рух, з чаго ўсё пачалося?**

– Яшчэ да выбараў да мяне звярнулася адна дзяўчына, каб я паставіла подпіс за вылучэнне незалежнага назіральніка. Так я даведалася, што невялікая групка беларусаў ладзіць акцыі ў падтрымку палітзняволеных – на той час у турме ўжо былі і Сяргей Ціханоўскі, і Віктар Бабарыка. І я далучылася да вулічных акцый. А пасля выбараў, калі адбыліся гэтыя жахлівыя падзеі, мы пачалі выходзіць кожны дзень – менавіта кожны дзень. І нас стала вельмі многа. Прычым прыязджаюць з іншых гарадоў Германіі, далучаюцца і мясцовыя жыхары, і расіяне, і іншыя. У нас дзве пастаянныя пляцоўкі: на Патсдамер-плац, гэта такая турыстычная зона, і ля Брандэнбургскіх варот. Мы проста падаём заяўку ў паліцыю, што акцыя будзе, і паліцэйскія нас яшчэ і ахоўваюць. Выходзім са сцягамі, з плакатамі, з песнямі. Ля беларускага пасольства штодня стаіць адзіночны пікет – два нашы хлопцы, Тарас і Міша, па чарзе, а мы прыходзім іх падтрымаць. Увогуле трымаем руку на пульсе і адгукаемся на кожную падзею – робім тэматычныя акцыі.

**– Што за людзі згуртаваліся ў Берліне вакол беларускай ідэі, які розгалас у Германіі маюць вашы акцыі?**

– Людзі самыя розныя, канешне, але сярод актывістаў і каардынатараў у асноўным моладзь – вельмі крэатыўная, таленавітая, адукаваная. Яны ведаюць па тры-чатыры мовы, хтосьці яшчэ вучыцца, хтосьці па нейкіх іншых прычынах жыве ў Берліне. Ёсць і такія, хто ўмудраецца ездзіць і ў Мінск на маршы, і ў Берліне выходзіць. Я тут сустрэла і Андрэя Румянцава, які раней іграў у мінскай групе "Плато". Ён усёй сям'ёй удзельнічае – яго дачка разам са мной спявае, жонка-немка перакладае на нашых акцыях. Гэта ўсё надзвычай прыгожыя людзі, гэта будучыня Беларусі.

І рэзананс ад нашых акцый і пікетаў вялікі. Калі побач праязджаюць аўтамабілі, то падтрымліваюць нас сігналамі, людзі падыходзяць пагаварыць. Нашы сцягі ўжо ўсе пазнаюць, нас пастаянна паказваюць па тэлебачанні ў выпусках навін, здымаюць пра нас рэпартажы. Вось зараз з Парыжа едзе здымаць фільм знакаміты тэлеканал ARTE. Тут, у Берліне, увогуле многія падтрымліваюць Беларусь – самі немцы праводзяць мноства акцый. Напрыклад, кожны аўторак у Zionskirche адбываецца малебен за Беларусь, і я там раз-пораз за алтаром спяваю "Магутны Божа", іншыя творы. На гэтым тыдні спявала і ў Deuthes Theater на вечарыне, прысвечанай Беларусі, – з чыста нямецкай публікай. Праграма называлася "Glauben! Konnen! Siegen!", што па-нашаму – "Верым! Можам! Пераможам!". У Берліне усе ўжо ведаюць наш лозунг. Сваёй беларускай суполкай мы пашыраем прастору акцый – ужо ездзілі ў Патсдам, хутка паедзем ў Ростак, і г.д. Мы не спыняемся, і з кожным днём нас становіцца ўсё болей.



Вераніка Круглова і Святлана Ціханоўская.
Фота Дар'і Радзевіч.

**Надзея КУДРЭЙКА.**

ЧУЛІ?

# Сем груп універсітэта імя Купалы на каранціне

*У гродзенскіх універсітэтах увялі абавязковы масачны рэжым.*

Такая санітарна-прафілактычная мера стала абавязковай у сувязі з ростам колькасці выпадкаў захворвання на каранавірус у рэгіёне. Акрамя абавязковага нашэння масак прадугледжана строгае выкананне дэзінфекцыйнага рэжыму і сацыяльнага дыстанцыравання. Доступ у аўдыторыі без масак забаронены і для студэнтаў, і для выкладчыкаў. Гэта кантралюецца на ўваходзе ў ВНУ.

Групы, у якіх пацверджаны выпадкі захворвання на каранавірус, пераводзяць на дыстанцыйнае навучанне на два тыдні. Зараз у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы на каранціне знаходзяцца сем груп.

Таксама ў анлайн-фармат перавялі лекцыі для патокаў. Заняткі праводзяцца толькі для груп, у аўдыторыях, разлічаных на 80 чалавек, занята чвэрць месцаў. Ужывую слухаюць лекцыі першакурснікі – для адаптацыі да студэнцкага жыцця.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЗАЧИСТКА

# Алина Корбут после громкой отставки до сих пор не пришла в себя



Разгром белорусской культуры, начавшийся в августе с увольнения директора Купаловского театра **Павла Латушко** (а следом практически всего творческого коллектива главного национального театра страны), продолжился зачисткой в БГУКИ, когда 31 августа **Алина Анатольевна Корбут,** ректор этого государственного университета культуры и искусства, также лишилась своего поста.

К слову, студентами и многими преподавателями БГУКИ это было воспринято с возмущением. Но таково решение нанимателя – Министерства культуры. Надо сказать, что тогда многие министры в страхе перед деспотичной верховной властью истерично меняли руководителей в подведомственных структурах – чего стоит только увольнение из РНПЦ кардиологии известного академика А.Мрочека! Вот и Алина Корбут попала под властную метлу. И хотя нигде ни слова вслух не было сказано о политике, понятно, что за всеми увольнениями августа (а в Большом театре тогда же был уволен с поста главного дирижера Вячеслав Чернухо-Волич) маячило страшное слово «неблагонадежность». Страшное для власти, естественно, которую в данном случае представляет министр культуры **Юрий Бондарь.**

Мы связались с Алиной Анатольевной Корбут, чтобы спросить, где она работает сейчас. Ведь ее квалификация кандидата педагогических наук, кажется, ни у кого не вызывает сомнения. Тем более что благодарственные письма от того же президента Республики Беларусь, а также от министра культуры в ее резюме также имеются. Смогла ли она устроиться на работу? Увы, наш оптимизм оказался неоправданным.

– В своем университете мне не дали преподавать, – огорошила признанием бывший ректор А.Корбут. – Я пока нигде не работаю, прихожу в себя. Но вернуться на педагогическую работу хочу. Если меня, конечно, еще возьмут в вузах Минска… Это лучшее, что я умею: сеять разумное, доброе, вечное.

**– А вы все-таки хотели остаться в Университете культуры, да?**

– Да! И мне сначала выделили часы, ставку доцента на моей родной кафедре. Я даже работала почти весь сентябрь с магистрантами и дипломниками. А потом мне позвонили и сказали, что мое заявление от 1 сентября о приеме на работу не подписано. Решили, что мой образ будет вдохновлять студентов и преподавателей на «ненужные волнения».

**– А за отработанные дни вам заплатили?**

– Нет. Раз не подписан приказ о приеме на работу, то я ничего и не заработала. Только в конце сентября узнала, что уже месяц как безработная. Хотя думала, что все в порядке. Потому что исполняющая обязанности ректора еще 2 сентября успокоила коллектив, что мне будто бы дали ставку на кафедре – чтобы, по-видимому, люди не волновались и не возмущались. А потом тихонько позвонили и отказали. Многие еще думают, что я в университете, просто не встречаемся друг с другом из-за разного расписания. Но я уволена! Такие времена, такие нравы. Надо их пережить. Темные силы сейчас отбушуют, придет и наше время.

Кстати, исполняющей обязанности ректора БГУКИ назначена **Наталья Карчевская.** Она же первый заместитель министра культуры. Купаловским театром, кстати, теперь также руководит заместитель министра – **Валерий Громада.** Другой надежной креатуры, чтобы заткнуть «зияющие высоты», у Юрия Бондаря, похоже, нет.

**Елена МОЛОЧКО.**

КРУПНЫЙ ПЛАН

## Маргарита ЛЕВЧУК:

# «Нас бьют, а мы летаем!»

*Известная белорусская оперная певица рассказала «Народной Воле», как решилась на операцию по лазерной коррекции зрения, почему гордится белорусами и где в это непростое время подзаряжается позитивом.*



**– Маргарита, я так понимаю, вы готовились к операции заранее. Было страшно?**

– Нет, не было. У меня много знакомых, которые уже сделали такую операцию и не жалеют об этом, потому что живут с хорошим зрением. И мне все говорили: давай, Марго, у тебя маленький минус, все будет здорово. И полгода назад я решилась. Это был такой подарок ко дню рождения, я подумала, что в 30 лет я уж точно должна все видеть хорошо. Я пошла на обследование, и мне сказали, что есть проблемы с роговицей в левом глазу. И лучше, наверное, вообще не делать эту операцию, могут быть последствия. Но я упертая, не зря же по гороскопу Овен! И решила, что мне нужен другой врач.

**– Ого! Многие на вашем месте наверняка опустили бы руки, а вы с оптимизмом пошли искать другого врача!**

– Ну а как иначе? Если одна дверь не открывается, значит, надо искать другую! Друзья посоветовали мне глазного хирурга, сказали, что он настоящий гуру офтальмологии нашей страны. Я сказала «окей» и пошла на прием к Юрию Семеновичу Тоболевичу. Он сейчас работает в «ЛОДЭ». Когда мне делали диагностику, в этом медицинском центре еще не было крутых аппаратов. Мне сказали, что через полгода они закупают новую диагностическую технику, новый лазер и что мою роговицу можно будет со всех сторон посмотреть, проверить, и если диагностика покажет, что можно делать операцию, то будем делать. Через полгода я пришла, меня два часа проверяли вдоль и поперек. И новое оборудование показало, что противопоказаний нет. На следующий день мне сделали операцию.

**– Наверное, ночь накануне не спали?**

– Я спала прекрасно, никак особенно не готовилась к операции, не молилась. Но я себе внушила, что это как зуб полечить, ничего страшного. Настраивала себя на позитив. И накануне мне плохих снов не снилось, а я очень верю в свои сны! Наоборот, кругом были сплошные позитивные знаки. Например, просыпаюсь утром перед операцией, естественно, сразу в телефон, и первое, что вижу на «Фейсбуке», – результат теста на проверку зрения, который прошел кто-то из моих друзей и написал: «Ура, у меня лазерное зрение!» И я смотрю на эту картинку и думаю: это прекрасный знак просто, как предсказание!

Близким я не говорила, что будет операция. Уже постфактум сообщила. Сразу после операции всем позвонила и сказала: у меня новое зрение, поздравляйте! А еще сделала селфи и выложила в интернет.

Мне всю жизнь попадаются такие люди-раздражители, которые перед выступлением говорят: у тебя ничего не получится! Или что кто-то на конкурсе уже выступил круче тебя и ты уже можешь не выходить. И перед операцией у меня был такой же раздражитель. Мне уже закапали глаза, а по соседству был парень, которому стало не очень хорошо, вокруг него суетились врачи, а он причитал: «Голова кружится, если бы знал, что будет так хреново, не согласился бы на эту операцию!» И вот мне идти на операцию, и я все это слышу! Но я абстрагировалась, решила, что у меня не будет кружиться голова и все пройдет хорошо.

**– Расскажите, что чувствовали во время операции?**

– На самом деле сам процесс был очень интересный. Ты себя чувствуешь, как в каком-то космическом корабле. Лазер. Ты лежишь. Это не страшнее, чем выходить на сцену. Перед выходом на сцену меня трясет намного больше, чем перед этой операцией!

Накануне доктор рассказал мне всё, что со мной будут делать. Срезают верхний прозрачный слой на глазу, затем работает лазер, потом обратно тебе эту плёночку как-то приклеивают. И был самый интересный для меня момент: когда же они срезают эту плёночку?! Я говорила: пожалуйста, не потеряйте ее, чтобы было что обратно приклеить!

Сам лазер работает ровно семь секунд, и когда прижигают – это не больно. Ясное дело, что перед этим тебе капли обезболивающие капают, мажут веки – как будто замораживают. Поэтому ничего больного не было, может, немного дискомфортно. Но это и понятно! Кому приятно, когда в твоем глазу кто-то чужой ковыряется?

После операции перед глазами был небольшой туман, все расплывалось, но, когда я вышла и прочитала в конце коридора вывеску на двери, подумала: «Дай Бог здоровечка тому человеку, который это сотворил!» До этого – чтобы вы понимали, как было раньше, – я сидела напротив кабинета и не видела, что на двери написано «В верхней одежде не входить!». А тут сразу начала всё читать!

**– И что, совсем никаких неприятных ощущений?**

– Первый день кажется, что у тебя не той стороной надета линза, и она всё время мешает, хочется почесать глаз. Так что надо чуть-чуть потерпеть. А на следующий день у меня уже вообще все было хорошо. Мне проверили зрение – оно оказалось больше единицы!

**– Ого!**

– Я даже не знала, что так может быть! И сразу сказала доктору: теперь хочу такое зрение, чтобы молекулы и атомы могла видеть! Он рассмеялся: мол, верни женщине хорошее зрение, так она сразу, как в сказке про золотую рыбку: «Не хочу быть столбовою дворянкой, а хочу быть владычицей морскою!»

А, согласитесь, было бы круто, если бы можно было видеть всё! Это из мира фантастики, конечно, но, если уже придумали такой лазер, который возвращает зрение, может, скоро придумают и другой, при помощи которого можно будет через километры видеть.

**– Мир с новым зрением на самом деле стал иным?**

– Конечно! Я теперь четко вижу кнопочки на пульте. И свой грязный стол. Он стеклянный, на нем видны и все капли, и отпечатки пальцев, и пыль. Когда ты без линз и без очков, протер – и вроде бы чисто. А когда уже всё четко видишь – прямо натираешь этот стол до невероятного блеска!

Еще вчера у меня было такое чувство, будто хочется снять линзы, чтобы глаза отдохнули от того, что ты все видишь. А потом понимаю, что линз-то нету! И я всё вижу без них. В общем, непередаваемые ощущения! Я даже не представляю, что чувствуют люди, которые по каким-то причинам потеряли зрение, а доктора потом делают их хоть чуть-чуть зрячими. Обожаю смотреть видео о том, как людям с дальтонизмом покупают специальные очки, в которых они могут видеть некоторые цвета. Я смотрю на их реакцию и рыдаю. И мне самой хотелось плакать от радости, от того, что всё вижу. Но я себя сдерживаю, потому что мне не только плакать, мне и тереть глаза нельзя и даже мыть! Так что слезы пока придержу.

**– Правда, что умываться пока нельзя?**

– Конечно. Чесать нельзя, косметикой пользоваться нельзя, загорать нельзя, бани, сауны, бассейны – тоже нельзя.

**– Надолго?**

– Запрет на месяц, но первые пять дней вообще всё очень строго. И ни в коем случае не чесать, чтобы эта плёночка приросла обратно.

Конечно, ощущения суперские! И люди меня поздравляют, как будто день рождения какой-то. Говорят: добро пожаловать в мир всевидящих!

**– Так красиво и вдохновенно рассказываете!**

– Конечно, когда 20 лет у тебя были проблемы… Мне было 10 или 11 лет, когда стало падать зрение. Сказали, типичная школьная близорукость, я ее в школе приобрела. В общем, всем рекомендую не бояться и делать эту операцию. Меня многие спрашивали: Маргарита, что вы делали со страхом? Можно бояться и сидеть дома. А можно пробовать – и будет получаться, если ты очень хочешь. Как у Пауло Коэльо: если ты чего-то очень хочешь, то вся Вселенная будет способствовать этому! Хочешь – не боишься действовать – получаешь результат.

Так же с родами: кто-то буквально «выплевывает» ребенка за минуту, а кто-то мучается и больше не хочет беременеть. Все индивидуально… Но главное – быть настроенным на позитив.

**– Коль уж про роды вспомнили, может, декретный отпуск планируете?**

– Полгода еще нельзя рожать!

И алкоголь, кстати, тоже под запретом. Не могу сказать, что я была страстная поклонница горячительных напитков. Наоборот, всегда говорю, что мне не нужно быть подшофе чуток, чтобы какие-то поступки совершать, я и без алкоголя сумасшедшая!

Кстати, когда-то давно мне приснился сон, что я разговариваю с Господом и он мне говорит: «Маргарита, если ты будешь пить – будешь наказана». И я, как такой хороший ребенок, верю. И прекрасно живу без алкоголя. Хотя иногда по приколу на праздниках фоткаюсь с чужими бокалами и выкладываю в «Инстаграм». И мне пишут: сколько можно бухать? Но те, кто меня знает, понимают, что это не мои бокалы.

**– Маргарита, вы невероятно позитивный человек! Как вам удается в сегодняшней непростой ситуации не уйти в депрессию, не раскиснуть? Некоторые даже сильные личности сейчас в миноре. Откуда вы черпаете позитив?**

– Знаете, почему я часто звоню своей 87-летней бабушке? Я от нее реально заряжаюсь! У нее и то болит, и другое, но у нее всегда все хорошо. Она деда похоронила, ясное дело, скучает, но не жалуется никогда. А вторая моя бабушка – она моложе, ей 80, но она полная противоположность! И я понимаю, что моя 87-летняя бабушка – она суперпозитивчик, всю жизнь такой была. И я не понимала, откуда у нее силы, настроение. Она очень клевая, и для меня – пример. Поэтому я тоже всему миру говорю, что всё хорошо!

Посмотрите, у нас в стране сейчас реально всё плохо, но, с другой стороны, как воспрянули духом белорусы, всему миру заявили, что мы – нация! И я всеми белорусами горжусь.

Конечно, нельзя забыть боль и страдания, которые одни белорусы причинили другим, это печально. Но нужно уметь прощать и идти дальше, на свет маяка. Я каждый день смотрю, что делают белорусы и горжусь своей страной всё больше и больше! Смотришь фотографии красивых людей, которые поют во дворах, выходят с фонариками, наблюдаешь марш пенсионеров, где все старушки красивые, – это умиляет. И не дает погрязнуть в этой пучине грусти и негатива.

Я заряжаюсь от разговоров с этими замечательными людьми, от их искрящихся глаз. Нас бьют, а мы летаем!

Я на самом деле воспрянула духом. Произошло рождение новой нации. Я всегда гордилась тем, что я белоруска, но сейча-а-ас!.. Втройне горжусь, что родилась в этой стране! Белорусы – это сила! А добро всегда побеждает зло, поэтому только вперед и только с позитивом! Я верю в счастливое будущее нашей страны!

**Марина КОКТЫШ.**

**«Особая огромная благодарность врачам, которые со мной на фото!» – говорит Маргарита Левчук. Справа налево: руководитель офтальмологического центра «ЛОДЭ» Юрий Семенович Тоболевич, хирурги-волшебники Ольга Александровна Сыромятина и Игорь Генрихович Заборовский.**

ПРАВОВОЙ ЛИКБЕЗ

## Могут ли привлечь к ответственности медика, оказывающего помощь участникам несанкционированных мероприятий?

*Ответ на этот вопрос дал адвокат Минской городской коллегии адвокатов, кандидат юридических наук **Виталий Коледа**.*

«На мой взгляд, ответственности медика за оказание медицинской внеслужебной помощи даже в эпицентре несанкционированных массовых мероприятий быть не может, – *цитирует адвоката сайт medvestnik.by*. – Жизнь и здоровье человека являются высочайшими ценностями, охраняемыми Конституцией Республики Беларусь, Международной декларацией прав человека и иными важнейшими международными актами. Также оказание медицинской помощи либо нахождение в центре событий для оказания медицинской помощи не может автоматически приравниваться к участию в несанкционированных мероприятиях, ведь участие в них предполагает наличие некоего политического или социального аспекта в действиях индивида. Соответственно, при отсутствии указанных аспектов, когда цель у человека – не участие и выражение какого-либо мнения, а помощь иным людям, – не образует состава правонарушения».

*Какие последствия может иметь задержание медработника для его карьеры?*

«Факт привлечения медицинского работника к административной ответственности не может являться основанием для расторжения трудовых отношений, – *говорит адвокат*. – Но, если работник отбывал административный арест, нахождение в изоляторе имеет низкие судебные перспективы для признания данной причины уважительной для отсутствия на рабочем месте, по крайней мере пока. Увольнение же лиц за факт участия в мероприятиях, даже несанкционированных, – законодательством такая возможность не предусмотрена. Однако и факты, когда такая формулировка присутствовала в трудовых книжках уволенных, лично мне не известны. Вместе с тем работник по действующему законодательству может быть уволен по истечении срока контракта и, к сожалению, без каких-либо мотивов. В случае же, если человек увольняется с формулировкой «по соглашению сторон», то встает вопрос о том, почему такая формулировка указана в приказе об увольнении, если человек настаивает, что его уволили по иным причинам. Поэтому, подписывая собственноручно согласие с приказом об увольнении по соглашению сторон, необходимо понимать, что тем самым вы существенно уменьшаете перспективы оспаривания такого увольнения как незаконного и мотивированного обстоятельствами, с которыми закон не связывает оснований для увольнений».

ТРЫПЦІХ

## Са слязьмі на вачах…

*Гродзенская мастачка Юлія Кульба пад уздзеяннем падзей, якія адбываюцца ў Беларусі, пачала ствараць трыпціх. Дзве карціны ўжо завершаны, а вось трэцяя пакуль не склалася нават у галаве.*

**«Хатні гвалт»**

Менавіта так называецца першы малюнак трыпціха. Гэта погляд мастачкі на многія гады жыцця беларусаў і на тое, што абвастрылася ў першай палове 2020-га. Гэта стан народа, які падманулі, абмежавалі яго правы і заткнулі рот, кажа Юлія.

*– На маёй карціне дзяўчына – яна ўвасабляе Беларусь, якую мы доўгія гады назіралі. Ёй заткнулі рот, яна згвалтаваная, у падаўленым стане, са слязьмі на вачах. Але позірк яе кажа пра тое, што яна не зламана,* – хвалюючыся, распавядае мастачка і дадае, што карціна працята яе асабістым болем і болем многіх людзей. Яна згадвае, што плакала амаль кожны раз, калі садзілася за мальберт.

Неўзабаве пасля публікацыі малюнка ў сацсетках яго пачалі выкарыстоўваць падчас акцый пратэсту, ставіць на аватаркі ў сацсетках. Юлія распавядае, што ёй напісала вялікая колькасць людзей з розных краін:

*– Прасілі дазволу выкарыстаць малюнак для друку на майках, на плакатах, на акцыях у падтрымку беларусаў, некаторыя хацелі б яго купіць.*

**«Вецер перамен»**

Гэта другая частка трыпціха, і яна дыктавалася самім жыццём, якое кіпіць на плошчах і вуліцах беларускіх гарадоў і вёсак: мастачка назірала, як беларусы становяцца адзіным народам – годным і вольным.

І на карціне: вецер перамен зрывае павязку з твару дзяўчыны, Беларусь ужо не ў роспачы, а смела і ўпэўнена глядзіць наперад. Аўтарка малюнка кажа, што менавіта такой яна ўбачыла нашу мірную рэвалюцыю.

Юлія распавядае, што не брала ніякіх прататыпаў з жыцця, а стварыла зборны вобраз. Яе вельмі ўзрушылі гэтыя падзеі, і яна як мастак не магла на іх не адгукнуцца. І першым штуршком стала тое, што яшчэ перад выбарамі пачалі кідаць у турмы ні ў чым не вінаватых людзей.

*– А што нас чакае наперадзе?* – задаецца пытаннем мастачка. – *Гэта залежыць ад кожнага з нас. Як, дарэчы, і тое, якой будзе апошняя частка майго трыпціха...*

Пакуль дзве карціны знаходзяцца ў мастачкі, яна выстаўляла іх для прагляду толькі ў інтэрнэт, але думае, што настане той час, калі закончаны трыпціх з'явіцца ў якой-небудзь галерэі.

Юлія Кульба скончыла Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт. Зараз знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**



**Юлія Кульба і дзве карціны трыпціха.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
9 КАСТРЫЧНІКА 2020 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Анастасія САРОКІНА:
# «Гэта першы выпадак у свеце, калі краіна сама адмовілася ад такога...»

*Старшыня Беларускай федэрацыі шахмат, віцэ-прэзідэнт ФІДЭ распавяла "Народнай Волі" пра тое, як краіна адмовілася ад правядзення Сусветнай шахматнай алімпіяды, пра страчаныя магчымасці і сваю грамадзянскую пазіцыю.*

Нагадаем, што два гады таму Беларусь атрымала права на правядзенне Шахматнай алімпіяды 2022 года. Але на гэтым тыдні стала вядома: краіна парушыла фінансавыя абавязацельствы, а таму пазбаўлена права правядзення сусветнага шахматнага форуму. Гэта звязана з тым, што Міністэрства спорту Беларусі не зрабіла неабходных авансавых плацяжоў і не аплаціла страхоўку.

– Вы не ўяўляеце, наколькі складана было атрымаць права на правядзенне ў Мінску такога сусветна значнага мерапрыемства! – кажа **Анастасія САРОКІНА**. – Над заяўкай наша каманда працавала на працягу двух гадоў, шмат было патрачана сіл.

На той момант Беларусь ведалі як краіну, якая заўсёды трымае сваё слова і на ўзроўні праводзіць міжнародныя спаборніцтвы любога кшталту. Мы паспяхова правялі тры дзіцячыя чэмпіянаты свету, таму ў нас паверылі і даверылі Сусветную шахматную алімпіяду 2022 года.

І, паверце, гэта стала для нас самым сапраўдным святам, у Беларусі пачаўся шахматны бум. Шахматамі цікавяцца і дарослыя, і дзеці, адкрываюцца прыватныя школы. А алімпіяда не толькі была б карыснай для іміджу краіны, але і дала б дадатковы штуршок для развіцця шахмат у краіне. Але, як бачым, атрымалася тое, што атрымалася.

**– Якія абавязацельствы брала на сябе дзяржава пры правядзенні Сусветнай шахматнай алімпіяды?**

– Пры падачы заяўкі павінны абавязкова быць дзяржаўныя абавязацельствы, бо без гэтага заяўка нават не разглядалася б. Затым, калі нейкая краіна перамагае, на працягу трох месяцаў падпісваецца кантракт, у якім прапісана ўсё тое, што павінны зрабіць бакі.

Беларусь узяла на сябе абавязацельствы правесці алімпіяду і два Кубкі свету (сярод жанчын – у гэтым годзе і сярод мужчын – у наступным), і, зыходзячы з гэтага, павінна была несці пэўную фінансавую нагрузку. З беларускага боку ўрадавым гарантам выступала Міністэрства спорту і турызму.

**– У які момант стала зразумела, што правядзенне ў Мінску гэтага мерапрыемства пад пагрозай?**

– Дастаткова доўга ішлі перамовы з Міжнароднай федэрацыяй шахмат, але прыйшла і паламала планы пандэмія каранавіруса. У выніку ў чэрвені гэтага года беларускі ўрад прыняў рашэнне не выконваць свае фінансавыя абавязацельствы ў сувязі са складанай эпідэміялагічнай і эканамічнай сітуацыяй.

У Мінск прылятаў прэзідэнт ФІДЭ Аркадзь Дварковіч, абмяркоўваліся нават варыянты правядзення турніраў не ў поўным фармаце, але, на жаль…

Дарэчы, перамовы з ФІДЭ працягваюцца да гэтага часу, бо кантракт жа пакуль цалкам не скасаваны. У снежні пройдзе Генеральная асамблея ФІДЭ, падчас якой і будзе прынята канчатковае рашэнне, што будзе з алімпіядай 2022 года.

А я, як віцэ-прэзідэнт ФІДЭ, стараюся зрабіць усё, каб Беларусь панесла мінімальныя грашовыя і іміджавыя страты.

**– Наша краіна павінна запалаціць штраф?**

– Так, гэта прадугледжана кантрактам. Можа быць нават сума з шасцю нулямі.

Безумоўна, вельмі шкада, што ўсё так атрымалася, бо ажыццявіць такі грандыёзны праект – гэта мара майго жыцця. Я сама з шахматнай сям'і, таму хочацца, каб нават з гэтай сітуацыі краіна выйшла з найменшымі стратамі. Каб Беларусь заплаціла як мага меншы штраф, каб не пацярпелі беларускія спартсмены, бо і яны могуць трапіць пад санкцыі за невыкананне ўрадам сваіх абавязацельстваў. Няма гарантый, што федэрацыю на час не выключаць з рэйтынг-ліста ФІДЭ. У гэтым выпадку нашы спартсмены не змогуць удзельнічаць у спаборніцтвах пад беларускім сцягам да выканання ўсіх фінансавых абавязацельстваў. Хаця гэта ўжо будзе найгоршы варыянт. Спадзяюся, што да гэтага не дойдзе.

Не бачу вялікай агрэсіі з боку ФІДЭ да беларускага боку, але асобныя сябры арганізацыі настроены рашуча, бо гэта такі першы выпадак у свеце, калі краіна сама адмовілася ад правядзення Сусветнай шахматнай алімпіяды.

**– Некаторыя меркавалі, што Беларусь магла згубіць гэтую алімпіяду па палітычных матывах. Маўляў, Анастасія Сарокіна падпісала ліст, у якім спартыўная грамадскасць выступіла супраць гвалту і беззаконня ў краіне, а таму ўрад і адмовіўся фінансаваць мерапрыемства…**

– Гэта ніякім чынам не звязана, бо, як я ўжо казала, урад адмовіўся фінансаваць шахматны форум яшчэ ў чэрвені. І гэта найперш звязана з пандэміяй і складаным эканамічным становішчам у краіне. Мы ж бачым, што каранавірус парушыў многія спартыўныя планы, нават Гульні ў Токіа адмянілі.

Спартсмены ва ўсіх відах спорту пацярпелі, хаця ў гэтым плане шахматысты знаходзяцца ў больш выгадным становішчы, бо турніры можна праводзіць і дыстанцыйна.

**– Дарэчы, з вамі спартыўныя чыноўнікі не праводзілі прафілактычныя гутаркі на прадмет таго, каб адклікалі подпіс пад лістом, які падпісалі каля 650 прадстаўнікоў спартыўнай грамадскасці?**

– Я ж не толькі кіраўнік Беларускай федэрацыі шахмат, але і віцэ-прэзідэнт ФІДЭ. У мяне вельмі шмат паездак па ўсім свеце нават у час пандэміі, таму не так часта бываю ў Мінску.

Але, на мой погляд, кожны чалавек мае сваю грамадзянскую пазіцыю і права яе выказваць. Напрыклад, у нашай федэрацыі ёсць людзі з рознымі поглядамі, і што з гэтага?

Да слова, раней я не хавала, што падтрымліваю накірунак развіцця нашай краіны і дзеючую ўладу, бо бачыла, колькі тут зроблена для спорту і спартсменаў. Ніколі не была блізкая да палітыкі, мне гэта ніколі не было цікава. Але карэнны пералом у маёй свядомасці адбыўся, калі ўбачыла, што ў краіне адбывалася ў першыя дні пасля выбараў. Гвалт над людзьмі для мяне непрымальны.

**– Сёння за ўдзел у маршы адбывае пакаранне за кратамі баскетбалістка Алена Леўчанка, якую ведаюць ва ўсім свеце. Гэта нармальная сітуацыя?**

– Я не ведаю, хто можа лічыць гэта нармальнай сітуацыяй, хаця, відаць, ёсць і такі. Абсалютна ненармальна, калі людзей арыштоўваюць за тое, што яны выходзяць на мірныя акцыі. І тое, што спартсмены выказваюць свае погляды, на мой погляд, заслугоўвае павагі.

Але не асуджаю і тых, хто маўчыць альбо займае нейтральную пазіцыю, бо ў кожнага свая гісторыя, і мы не заўсёды ведаем, што гэта за гісторыя.

**– Дырэктар Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па фрыстайле Вадзім Крывашэеў быў звольнены за слабую ідэалагічную працу. У Федэрацыі шахмат такая праца праводзіцца?**

– Федэрацыя шахмат займаецца шахматамі, а не ідэалагічнай падрыхтоўкай. Мы – грамадскае аб'яднанне, якое збірае людзей па інтарэсах. І інтарэс гэты ўсім вядомы – шахматы. Таму мы не праводзім апытанні, у каго якія захапленні альбо палітычныя погляды.

Хаця, безумоўна, у краіне павінна быць і свабода слова, і свабода выбару. Гэта прынцыповая пазіцыя не віцэ-прэзідэнта ФІДЭ і кіраўніка Беларускай федэрацыі шахмат, а грамадзяніна Беларусі.

**– Шахматысты – людзі з аналітычным мысленнем, якія пралічваюць сітуацыю на некалькі хадоў наперад. Можаце прадказаць, што чакае нашу краіну ў бліжэйшы час?**

– Я – не палітык, а ў палітыцы некалькі іншыя гульні, чым у шахматах. Але, безумоўна, хацелася б, каб усе мы былі жывыя і здаровыя і ў краіне зноў была б згода. Веру, што ўсё ў нас будзе добра!

**Алесь СІВЫ.**

ШАШКІ

## Адэскія матывы

Прапануем для самастойнага рашэння мініяцюры-64 адэсіта **Сяргея Губачкіна**.

№1 **Белыя**: a5, b6, d6, c7, e7 (5).
**Чорныя**: b2, d2, c3, d4, a7, g7, f8 (7).

№2 **Белыя**: b4, b6, d6, f6, c7, e7 (6).
**Чорныя**: d2, c3, g3, d4, f4, a5(6).

№3 **Белыя**: b6, d6, c7, e7 (4).
**Чорныя**: b2, d2, c3, a7, g7, f8 (6).

№4 **Белыя**: b4, b6, d6, a7, c7, e7 (6).
**Чорныя**: d2, c3, e3, a5, g5, f6 (6).

№5 **Белыя**: d4, g5, b6, f6, a7, c7 (6).
**Чорныя**: d2, f2, e3, b4, c5, h8 (6).

Далей самастойна рашыце праблемы-64 вядучага рубрыкі.

№6 (гл. дыяграму) **Белыя**: c1, d2, h2, e3, d4, e5, d6 (7).
**Чорныя**: a3, g3, b4, f4, g5, g7, b8 (7).

№7 **Белыя**: e1, b2, c5, b6, d6, h6, c7 (7).
**Чорныя**: h2, e3, d4, a5, g7, b8, f8 (7).

№8 **Белыя**: e1, h2, a3, c5, b6, d6, a7, c7 (8).
**Чорныя**: d2, c3, e3, b4, d4, e5, g5, g7, b8 (9).

## Міжнародны калейдаскоп

Знаёмім з новымі кампазіцыямі мінчаніна **Івана Наўроцкага**.

№9 **Белыя**: простыя 22, 44, дамкі 25, 48 (4).
**Чорныя**: простыя 7, 19, 32, дамкі 3, 26 (5)
17(21**А**), 42, 44-39(30), 24 х.**А**(8), 30,44-39,38 х.

№10 **Белыя**: простыя 18, 19, 22, 30, дамка 49 (5).
**Чорныя**: простыя 1, 10, 25, 31, 42, дамка 4 (6).
12(27**А**), 21, 14, 7, 26 х. **А**(34), 14(19), 7(12), 16, 48 х.

№11 **Белыя**: простыя 18, 21, 27, дамка 31 (4).
**Чорныя**: простыя 8, 9, 13, 16, 22, 29, 40, 44, дамка 11 (9).
36, 50(27**А**), 6, 35х. **А**(22),38, 45х.

№12 **Белыя**: простыя 10, 18, 38, 42, дамка 2 (5).
**Чорныя**: простыя 9, 19, 24, 28, 29, 33, 45, дамка 48 (8).
5, 40(42**А**), 48, 4х. **А**(34),48, 3х.

Наступныя міжнародныя творы прапануе вядучы рубрыкі.

№13 **Белыя**: 11, 12, 17, 23, 34, 40, 42, 43, 48, 50 (10).
**Чорныя**: 3, 9, 13, 15, 20, 24, 31, 37, 39, 45 (10).
19, 8, 39, 39, 11-7, 1, 14, 20, 44 х.

№14 **Белыя**: 6, 12, 17, 21, 40, 45, 50 (7).
**Чорныя**: 20, 26, 31, 32, 35, 39, 43 (7).
1, 40, 44, 6, 37, 48 х.

№15 **Белыя**: 10, 18, 19, 31, 46 (5).
**Чорныя**: 8, 21, 26, 35, 39, 42 (6).
5, 41, 18-12, 30(24**А**), 2(29), 7(33), 11(38), 16 х. **А**(19), 26, 17, 50 х.

## Супаставім рашэнні

"Народная Воля" за 18 жніўня 2020 года.

**№1** – fg5, f4(dc3), ab2, e5,e7, f8(b6), g5(a5), f6(b4), f6-g7(c3), h8(d2), d4,e1 х.
**№2** – fe7, c7, c5, e5, g5, c3, g5 х.
**№3** – c7, c3, g5(g7), h6(f6),g5, g7(g3), h8(f2, g1), b6(a:c5), a1 х.
**№4** – d8, g5, c3(g3), e1(f2),c7, a7(e5). b8(f4),g3, f2 х.
**№5** – ef4, g5, b8, cd6 e:c7, b4 a:c5, c3 х.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Уладзімір Барысёнак** (Віцебская вобл.).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі"*** – або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,
міжнародны
майстар спорту.**

СКАНДАЛ

# Чемпионка мира Александра Романовская уволена «за прогул», а тренер Николай Козеко лишен президентской стипендии

*Чемпионка мира Александра Романовская и тренер Николай Козеко рассказали "Народной Воле" о том, что происходит.*

*Ранее Александра Романовская и Николай Козеко подписали письмо с требованиями о проведении честных выборов и о прекращении насилия. Александра участвовала в записи видеообращений спортсменов, а также активно выражала свою гражданскую позицию.*

*Увольнение чемпионки мира последовало после ее поста в социальной сети.*

– Очень возмутило происходящее в нашей стране, и я поделилась своим мнением в «Фэйсбуке», – *рассказывает Александра*. – После этого на меня прямого давления не оказывалось. В первую очередь пострадали тренеры и руководители, которым вышестоящие должностные лица стали объяснять, что им нужно активнее проводить идеологическую работу со спортсменами. После состоялась встреча с министром спорта и туризма, на которой дали понять, что спортсменам нечего жаловаться,.

*Официальной причиной увольнения Александры Романовской стал прогул, который, кстати, был по уважительной причине.*

– У отца Саши случился инсульт, – *говорит тренер Николай Казеко*. – Она не успела никого предупредить и не пришла на тренировку. Я считаю, что руководство поступило не по-человечески, учитывая то, сколько Саша сделала для национальной команды. Но все мы понимаем, что причина увольнения не в этом. За что так поступили с человеком? Саша воспользовалась своим конституционным правом и выразила свое мнение.

**– Николай Иванович, что значит «уволить за прогул»? Ведь Александра работает не на заводе…**

– Согласен, что формулировка странная, потому что для спортсменов важен результат. И он, безусловно, есть. А система у нас действительно как на заводе: турникет и карточки, на которых отображается время. Режим работы центра – это для администрации и персонала. Для спортсменов нужно было организовать «скользящий» график тренировок, но этого не было сделано.

Зачастую в нашем руководстве оказываются люди, которые к спорту не имеют отношения. А потом получаются такие «увольнения». Сашу лишили заработной платы, которую, если разобраться, ей платит народ. Но из самой национальной сборной не вычеркнули. Больше всего меня волнует, как некоторые мои коллеги будут после этого смотреть в глаза руководству. Тренеры ведь не военные.

**– Какие задачи ставятся перед спортсменами в нашей стране?**

– Не задачи, а приказы победить.

*Несмотря на все происходящее, чемпионка мира Александра Романовская не планирует уезжать из страны, она продолжает ходить на некоторые воскресные марши и помнит, что для нее сейчас важнее совесть, чем безучастие.*

**– Александра, а вы лично интересовались позицией директора центра фристайла в отношении спортсменов?**

– Да, я спросила, кто останется, если такие, как я, не нужны. Мне ответили, что кто-нибудь найдется.

**– Как вы думаете, что было бы, если бы Лукашенко сообщили, что вы завоевали золотую медаль, выполнили его приказ на Олимпийских играх, но уволены за прогул? Какой была бы его реакция, если забыть о политических мотивах?**

– Я сожалею о том, что главные руководители нашей страны со спортом не связаны. И они не понимают всех тонкостей, поэтому меня увольнение даже в такой ситуации не удивило бы.

**– Как отреагировали родители на ваше увольнение?**

– Папа сейчас находится на реабилитации, ему уже лучше. Мама за меня переживает, реагирует болезненно на такие события в моей жизни. Ей просто понадобится время, чтобы это принять.

*Главный тренер национальной сборной по фристайлу Николай Козеко тоже пострадал – его лишили президентской стипендии, а также в досудебном порядке взыскивают средства в связи с административным правонарушением.*

– Я обратился в Минспорта за разъяснениями по поводу лишения стипендии. Получил ответ, что претензий к моей профессиональной деятельности нет. Они есть к моему административному нарушению, которое было год назад. Получил его за вождение автомобиля, но без серьезных последствий. Заплатил штраф давно. И когда мне назначали президентскую стипендию, министр об этом знал. И вопросов никаких не возникало.

**– Николай Иванович, допускаете ли вы, что репрессии в отношении спортсменов могут продолжиться? Может быть, вам на это намекали?**

– У меня есть информация, что в Министерстве спорта и туризма сейчас обсуждается вопрос о приглашении другого тренера на замену мне. Интересно, какую придумают причину. Я считаю, что это неравная игра. Они цепляются к нашей позиции, а чтобы было честно – пусть выходят с нами и прыгают на соревнованиях.

*На вопрос о том, есть ли возможность вернуть денежные средства государству, Козеко отвечает: нет. О какой сумме идет речь, Николай Иванович не уточнил.*

*Напомним: предыдущий директор РЦОП по фристайлу Вадим Кривошеев был уволен 7 сентября «за плохую идеологическую работу в коллективе». Его место занял Сергей Марченко, ранее возглавлявший Федерацию воднолыжного спорта и вейкборда Беларуси.*

**Фира РАЗУМОВСКАЯ.**

*ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА*

***Александра Романовская*** *– белорусская фристайлистка, участница Олимпийских игр 2018 года, чемпионка мира 2019 года, двукратная чемпионка зимней Универсиады 2019 года, многократный призер этапов Кубка мира. Мастер спорта Республики Беларусь международного класса.*

***Николай Козеко*** *– известный тренер, чьи ученики завоевали шесть олимпийских медалей. Чемпион СССР в прыжках на батуте. Заслуженный тренер Белорусской ССР (1990). Полный кавалер ордена Отечества.*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Подписано в печать 08.10.2020 в 17.00. Объем 4 печ. листа. Тираж 25000 экз. Заказ №2715.